вырашыў часова даверыць кіраўніцтва місіі мне. Айцец Грыбоўскі, які быў пробашчам парафіі лацінскага абраду, і а. Літвінскі, другі вікарый парафіі ўсходняга абраду, меліся заставацца з парафіянамі ў паселішчы.

Тады мы меркавалі, што немцы, а таксама і расейцы будуць паважаць амерыканскі пашпарт. У найгоршым выпадку амерыканская амбасада будзе заўсёды ведаць, дзе я, і здолее мне дапамагчы. Такім чынам сталася, што я, малады амерыканец, у дні, калі ўвайшлі расейцы, быў адзіным святаром місіі ў Альбярціне.

Першы расейскі афіцэр з'явіўся аднойчы пасля сняданку. Калі ён конна заехаў, каб паглядзець нашу езуіцкую місію, я знаходзіўся на падворку. Быў гэта чалавек сярэдняга ўзросту ў запыленым мундзіры колеру хакі з чырвонымі нашыўкамі расейкай арміі. Ветліва прывітаўся і аднёсся да мяне з павагай. Паглядаючы з-пад брыля, ён шчыра, так мне здалося, быццам просячы прабачэння, паведаміў, што можа ўзнікнуць патрэба ў расквартараванні некалькіх чальцоў штаба на некалькі дзён у нашых будынках. Ягоныя вочы выражалі стому. Ён здаваўся такім ветлівым, амаль прыязным, і я пачаў спадзявацца, што ўмовы жыцця ў Альбярціне пад расейскай акупацыяй, магчыма, не будуць кепскімі. На няшчасце, гэта быў апошні раз, калі я бачыў менавіта гэтага афіцэра. Думаю, ён урэшце вырашыў, што сядзіба графа Пуслоўскага будзе лепшай кватэрай для яго і ягонага штаба.

Пасля абеду таго дня з'явілася расейская вайсковая калона. Яе начальнік, малады капітан, не быў ні сімпатычным, ні агрэсіўным, а проста вельмі дзелавітым у практычных справах. Растлумачыў, што мае загад заняць семінарыю пад кватэры для войска. Паведаміў, што я магу захаваць за сабой пакой на другім паверсе і забраць, што хачу, з царкоўнага майна,



28

бібліятэчных кніжак і маіх асабістых рэчаў, але астатнія будынкі з іх мэбляй будуць рэквізаваныя. Аднак абяцаў, што царква застанецца некранутай. Дзеля большай упэўненасці загадаў зрабіць праход праз падворак, каб людзі, ідучы ў царкву, не праходзілі па тэрыторыі, рэквізаванай для войска. Загадаў таксама замкнуць дзверы з семінарыі ў царкву, каб вайскоўцы не здолелі ўвайсці тым шляхам да царквы.

З'явіліся вайсковыя падраздзелы і занялі будынак. Пасля доўгіх дзён маршу жаўнеры кінуліся на семінарыю — як калісьці рэвалюцыянеры на Зімовы палац. У двор заехалі грузавікі, і жаўнеры пачалі кідаць на іх праз вокны бібліятэкі ўсё, што трапляла ім у рукі. Кніжкі лёталі ва ўсіх кірунках. Жаўнеры ў двары смяяліся і жартавалі, крычалі на тых, што кідалі кніжкі праз вокны. Ім адказвалі гэтым жа. Урэшце кніжкі былі вывезены на знішчэнне.

Калі гэта рабілася, я з жахам убачыў, як адзін з жаўнераў закінуў трос на манумент Найсвяцейшага Сэрца, што стаяў у двары, прывязаў да грузавіка і, пад гучныя крыкі жаўнераў, паваліў яго, разбіўшы на дробныя кавалкі. Абломкі пагрузілі на машыны і вывезлі. Назіраючы за гэтай сцэнай, я не мог зразумець, ці гэты асаблівы подзвіг быў выкананы па загадзе, ці гэта быў выбрык кагосьці з жаўнераў.

Наступная ноч была найгоршай з перажытых мной у Альбярціне. Спаць не мог, бо нада мной няспынна туды-сюды хадзілі жаўнеры. А назаўтра я быў выкліканы на асабістую гутарку з палітруком, агентам камуністычнай партыі альбо тайнай міліцыі, які меўся ў кожнай адзінцы Чырвонай Арміі. Ён хацеў даведацца, дзе ў Альбярціне знаходзяцца былыя чыноўнікі польскай улады. Я аб гэтым нічога не ведаў, так яму і сказаў. Ужываючы метад, з якім я добра пазнаёміўся



29

пазней, палітрук задаў мне тое ж самае пытанне некалькі разоў у рознай форме. Настойваў на маім адказе, аргументуючы, што, калі я яму дапамагу, то тым самым дапамагу “народу”. “Мая дзейнасць з’яўляецца не палітычнай, а душпастырскай, — адказваў я. — як пробашч дапамагаю людзям у духоўных справах і, калі маю магчымасць, у матэрыяльных”.

Тут ён раззлаваўся, а з мяне гэтага было ўжо даволі. Я памкнуўся ўстаць, але ён мяне затрымаў, загадаўшы вярнуцца і сесці. Аднак астатнюю частку нашай “гутаркі” быў пачцівы і ветлівы. Неўзабаве праводзіў мяне да дзвярэй, кажучы, што хутка выкліча мяне зноў.

Замест яго праз некалькі дзён мяне выклікаў капітан. Паведаміў, што вайсковы статут забараняе цывільным асобам жыць у адным памяшканні з войскам. “Прапанаваў”, каб я перайшоў жыць у маленькі дамок у канцы саду місіі. Гэты сад некалі быў дворыкам яе нерухомай маёмасці. Перабраўся адразу пасля абеду, а вечарам да мяне далучыліся айцы Грыбоўскі і Літвінскі. Мы былі радыя, што жывём разам, супольна, але праз некаторы час мясцовы камуністычны камітэт вырашыў, што чатырохпакаёвы дамок для трох “буржуазных святароў” — гэта задужа. І прыслалі некалькі сем’яў, каб жылі з намі. Мы ўтрох занялі адзін пакой, дзве сям’і памясціліся ў вялікай сталовай, а тры — у меншым пакоі. Кухняй карысталіся пазменна…

Аднойчы раніцай, калі я прыйшоў у царкву, каб адправіць імшу, то застаў дзверцы ад кораба для святых дароў адкрытымі, а абрус з ахвярніка скінутым. Заўважыў таксама адсутнасць Найсвяцейшага Сакраманту. Я быў узрушаны. А калі заўважыў, што дзверы ў жаўнерскую дзяжурку ўжо не забітыя цвікамі, адразу зразумеў, што сталася і чаму.


30

Пасля абеду я паспрабаваў сустрэцца з капітанам, каб скласці скаргу, але безвынікова. Лацінская царква ў Альбярціне надалей функцыянавала нармальна, і наведвала яе больш людзей, чым калі-небудзь дагэтуль. Здавалася, што жаўнеры асабліва ненавідзелі каталікоў усходняга абраду як чальцоў Царквы супрацьлеглай расейскаму праваслаўю, але амаль не перашкаджалі каталікам лацінскага абраду, і шмат нашых вернікаў удзельнічалі ў святой імшы пераважна там. Таму я неахвотна вырашыў зачыніць царкву ўсходняга абраду. Перш чым зрабіць гэта, апошні раз абышоў яе з праверкай і выявіў, што жаўнеры, так, каб ніхто аб гэтым не ведаў,ператварылі гарышча ў прыбіральню. З гэтага часу адпраўлялі імшу толькі ў лацінскай царкве альбо, для нешматлікіх парафіянаў, у нашым пакоі ў садовым дамку.

Менавіта ў гэты час прыйшла тэлеграма з амерыканскай амбасады. Прыйшла з Масквы, куды пераехала амбасада пасля падзення Варшавы. Мне раілі пераехаць у Маскву, адкуль маглі адправіць у Злучаныя Штаты, альбо, калі палічу гэта больш пажаданым, накіравацца ў амерыканскую амбасаду ў Румыніі. Я паказаў гэтую тэлеграму маім сябрам-святарам, і мы сумесна яе абмеркавалі. Палічылі, што я павінен выехаць. Праца ўсходняй місіі здавалася ў дадзены момант цалкам знішчанай. Асабіста я мала чаго здолеў бы зрабіць, таму мог быць лёгка заменены іншымі айцамі. Агент НКУС, праз чые рукі, мабыць, прайшла тэлеграма, таксама “падказваў”, што я, амерыканскі грамадзянін, павінен неадкладна пакінуць краіну. А я, насуперак тым прыспешванням, адчуваў, што адказваю за парафію і місію перад айцом Дамброўскім і павінен застацца да таго часу, пакуль не ўзгадню ўсё з ім. Аб гэтым пасля абеду напісаў у амбасаду, маўляў, вырашыў застацца

ў парафіі, якая мне даверана. Не маю намеру пакідаць маіх авечак.

Крыху пазней прыйшла неспадзяванка. З езуіцкага аддзела тэалогіі ў Львове прыбылі айцы Нястроў і Макар са звесткамі ад айца Дамброўскага, што біскуп вырашыў часова зачыніць усходнюю місію ў Альбярціне. Гэта было сапраўды дзіўнае спатканне для нас, трох мушкецёраў, тут, у гэтым маленькім дамку ў глыбіні сада, пад чорным покрывам акупацыі расейскімі войскамі.

Макар, высокі грузін, быў надзіва поўны захаплення. Са сваімі доўгімі хвалістымі валасамі, арліным носам і бліскучымі чорнымі вачыма ён быў падобны на прыроджанага авантурыста, а падарожжа з Львова да Альбярціна яшчэ ўзмацніла ягоны запал. Нястроў прадстаўляў іншы тып авантурыста, хоць такім не выглядаў. Быў моцна складзены, амаль лысы, з мясістым носам, які рабіў яго падобным да Талстога. Жаданне працаваць толькі ў Расеі штурхнула яго наперад, і ў той вечар ён быў вельмі ажыўлены. Ён сказаў мне, што адчувае: надышоў час ажыццяўлення нашых сумесных募 мараў. Расейцы занялі Польшчу, такім чынам, мы фактычна ў Расеі. А. Дамброўскі, зачыніўшы місію, вызваліў мяне ад абавязкаў у Альбярціне. А. Грыбоўскі, як меркавалася, мог заняцца тут лацінскай парафіяй. Чаму нам не выкарыстаць гэты шанец і не выслізнуць у глыб Расеі? Нястроў і Макар множылі аргументы, і мой энтузіязм рос. Урэшце разам вырашылі спрабаваць, калі згодзіцца наша начальства.

Дыскутавалі амаль да позняга ранку, і нашы планы станавіліся ўсё больш акрэсленымі. Нястроў і Макар меліся вярнуцца ў Львоў, а потым Макар павінен прыехаць за мною. З-за таго, што наша начальства знаходзілася ў Львове, усё павінна было пачацца адгэ-

туль. Я тым часам, не ўзбуджаючы падазрэнняў, што збіраюся з’ехаць, даводжу да ладу справы ў Альбярціне. Памятаю яшчэ свае словы да Нястрова пры развітанні з ім той ноччу: «У Расеі будзем вясною».

Праз тыдзень, як і абяцаў, вярнуўся Макар, і на змярканні мы абодва выслізнулі з дому на дарогу да Слоніма. Цягнікі ўжо хадзілі не па раскладу, а на тыя, што хадзілі, нельга было набыць квіткі. Для майго грузінскага таварыша гэта паслужыла толькі выклікам. Мы дачакаліся на станцыі Слонім цягніка да Масквы і селі без квіткоў. Ні да каго не звяртаючыся праехалі Альбярцін. З вакна цягніка апошні раз убачылі сядзібу…»*

## САЮЗ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ (СБМ)

У ліпені 1993 года, калі Савет Міністраў Беларусі ўзначальваў Вячаслаў Кебіч, некаторыя рэспубліканскія газеты апублікавалі на сваіх старонках інфармацыю «Ва ўрадзе рэспублікі». У ёй, у прыватнасці, пісалася, што «Савет Міністраў Беларусі разгледзеў зварот Мінскай гарадской арганізацыі ветэранаў вайны і працы, Камітэта па справах моладзі пры Саўміне, шэрагу іншых грамадскіх арганізацый і грамадзян, якія выказваюць пратэст і абурэнне ў сувязі са сходам, прысвечаным 50-годдзю стварэння Саюза беларускай моладзі (СБМ), які намячаўся на 26 чэрвеня г. г. у памяшканні Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы… Урад падтрымаў паступіўшыя ў яго адрас прапановы аб недапушчальнасці якіх-небудзь мерапрыемстваў, звязаных з юбілеем СБМ. Старшы-

---

* Ks. Walter Ciszek. Z Bogiem w Rosji (1939–1963). London, 1988. С. 27–34. Пераклад Паўла Ляхновіча.

ня Савета Міністраў В. Ф. Кебіч падпісаў адпаведнае распараджэнне». І хоць кебічаўскі Савет Міністраў забараніў святкаванне 50-годдзя СБМ, беларуская моладзь і дэмакратычныя сілы ўсё ж адзначылі слаўны юбілей Саюза беларускай моладзі — адну са старонак нашай гісторыі. Але што гэта была за арганізацыя і якое дачыненне да яе меў Альбярцін?

У пачатку чэрвеня 1942 года нямецкі рэйхсміністр акупаваных усходніх тэрыторый Альфрэд Розэнберг выдаў дэкрэт аб стварэнні на акупаваных усходніх тэрыторыях спецыяльнага маладзёжнага аддзела ў нямецкім Міністэрстве ўсходніх абшараў (OMI). Па-рознаму ўспрынялі гэты дэкрэт нямецкія акупацыйныя ўлады. Напрыклад, супраць былі генеральныя камісары ў Коўне фон Рэнтэльн, Кох ва Украіне і некаторыя іншыя. А вось Вільгельм Кубэ ў Беларусі, наадварот, быў прыхільнікам стварэння беларускай маладзёжнай арганізацыі. Ён шмат разоў ездзіў да Розэнберга, каб той афіцыйна даў дазвол на стварэнне такой арганізацыі. І на працягу некалькіх месяцаў Кубэ такі дазвол атрымаў. Ці не з'яўляецца гэта адной з прычын знішчэння Вільгельма Кубэ? Бо яшчэ ў снежні 1942 года «полицейские власти в Берлине и Минске начали компанию, имеющую целью политическую дискредитацию Кубэ, как проводника "противоречащих" интересам Германии белорусских национальных тенденций… 22 сентября 1943 года погиб в результате покушения, которое, возможно, было инспирировано СС»*. Менавіта Вільгельм Кубэ, як пісала далей гэтая газета, пад лозунгам «Беларусь для беларусаў» прапагандаваў ідэі нямецка-беларускай супольнасці зацікаўлення і супрацоўніцтва, клапаціўся

* Свободные новости. 1993, № 9, май.

аб аднаўленні беларускіх школ і культурных устаноў, абараняў мінскія музеі і бібліятэкі ад рабавання і знішчэння арміямі. Але вернемся да стварэння СБМ і Альбярціна.

22 чэрвеня 1943 года, падчас урачыстасці ў Мінскім гарадскім тэатры, Кубэ абʼявіў аб стварэнні Саюза беларускай моладзі (СБМ). У прыватнасці, ён сказаў:

«1. Дзеля аднастайнага ўзгадавання і арганізацыі беларускае моладзі засноўваецца Саюз беларускай моладзі (СБМ).

2. Узгадаванне беларускай моладзі, апрача бацькоўскага дому і школы, з фізічнага, духоўнага і маральнага гледзішча перадаецца Саюзу беларускай моладзі.

3. Заданне ўзгадавання беларускай моладзі ў Саюзе беларускай моладзі перадаецца кіраўнічаму штабу беларускай моладзі. Дзеля кіравання кіраўнічым штабам я прызначаю шэфа гэтага штаба, які рэпрэзентуе Саюз беларускай моладзі і мае сваю сядзібу ў Мінску. Шэф кіраўнічага штаба беларускае моладзі падначальваецца мне…»

Гэтае выступленне генеральнага камісара Вільгельма Кубэ ў Мінску было апублікавана ў «Беларускай газэце» 22 чэрвеня 1943 года.

Галоўным органам СБМ быў кіруючы штаб пад кіраўніцтвам Міхася Ганько (1918–?). Працаю сярод дзяўчат на цэнтральным узроўні займалася Надзея Абрамава (1907–1979). Саюз беларускай моладзі месціўся ў Альбярціне, дзе навучаліся юнакі. Дзявочы СБМ знаходзіўся ў Драздах каля Мінска. У СБМ тады ўваходзіла беларуская моладзь ад 10 да 20 гадоў. На першае чэрвеня 1944 года СБМ налічваў 12 635 чалавек і дзейнічаў у 56 раёнах Беларусі.

У Альбярціне ў былым палацы Пуслоўскіх праходзілі спецыяльнае навучанне і кіраўнікі Саюза беларускай



35

моладзі, як піша гісторык Юры Туронак, «СБМ быў першай у гісторыі арганізацыяй, заснаванай дзяржаўнай уладай для ўзгадавання моладзі ў беларускім нацыянальным духу. Ранейшыя арганізацыі ў Беларусі, як камсамол і польскае гарцэрства, таксама дзейнічалі з дабраславення ўладаў, аднак служылі процілеглым мэтам — змаганню з беларускім нацыяналізмам і дэнацыяналізацыі моладзі. З гэтай прычыны піянерска-камсамольскія важатыя і гарцэрскія інструктары наогул не адпавядалі патрэбам новай арганізацыі і рэдка ёю выкарыстоўваліся. У такім становішчы адной з найважнейшых задач стваральнікаў СБМ была падрыхтоўка новых кіраўнічых кадраў — функцыянераў штаба і кіраўнікоў суполак на тэрыторыі Генеральнай акругі Беларусь і зоны армейскага тылу»*.

У Альбярціне юнакі і ў Драздах дзяўчаты, якія заканчвалі курсы СБМ, атрымлівалі адзнакі па наступных дысцыплінах: пачуццё таварыства, стараннасць, рысы характару, паводзіны, кемлівасць, агульныя веды, наяўнасць аратарскіх здольнасцей, знешнія фізічныя дадзеныя, плаванне, лёгкая атлетыка, гульнёвыя віды спорту, спевы, дырыжыраванне, пачатковае навучанне, страявая падрыхтоўка, камандная мова, уражанне ў цэлым.

21 верасня 1943 года да вышэйшых кіраўнікоў Саюза беларускай моладзі з прадмовай звярнуўся прафесар Вацлаў Іваноўскі. Ён сказаў: «Вы, маладыя, бярэце ў свае рукі беларускі нацыянальны сцяг. У вас шмат маладой энергіі і вялікія магчымасці, і вы паводле закону прыроды займеце вашае месца ў грамадскім жыцці, у працы і змаганні. Дык мы цешымся, што наша змена вартая тае гістарычнае часіны, якую мы перажываем,

---

* Туронак Юры. Людзі СБМ. Вільня, 2006. С. 49.

і шлём вам на дарогу самыя найлепшыя і сардэчныя пажаданні. Расці, дарагая моладзь, мацней, каб пабудаваць новую і шчаслівую Беларусь»*.

Галоўнай задачай СБМ было нацыянальна-патрыятычнае выхаванне беларускай моладзі, правядзенне мерапрыемстваў дзеля азнаямлення з мінуўшчынай роднага краю, вывучэнне роднай мовы і культуры, развіццё нацыянальных асаблівасцей, пазнанне сваёй Бацькаўшчыны. Важную навучальна-пазнавальную ролю адыгрывалі і разнастайныя экскурсіі па роднаму краю, удзел юнакоў і дзяўчат у святочных мерапрыемствах, у канферэнцыях і мастацкай самадзейнасці. Саюз беларускай моладзі не толькі актыўна адраджаў нацыянальную культуру, пашыраў беларускі маладзёжны асяродак, але і абараняў моладзь ад вывазу ў Германію. На жаль, прасавецкае падполле гэтага не разумела і варожа ставілася да СБМ. Але змагацца з ім, як піша ў сваёй кнізе «Беларусь пад нямецкай адукацыяй» Юры Туронак, падполлю было не так проста. Па-першае, гэтаму перашкаджала малалецтва яго ўдзельнікаў, а па-другое, дзейнасць яго праходзіла ў большасці сваёй па вялікіх гарадах і мястэчках — партызаны не мелі туды шырокага доступу. Знамянальна было і тое, што, насуперак настойлівай падпольнай прапагандзе, толькі трое кіраўнікоў СБМ пакінулі яго шэрагі і перайшлі да партызанаў…**

Але многія юнакі СБМ разам з Чырвонай Арміяй прымалі ўдзел у разгроме гітлераўскай Германіі, паклалі свае галовы ў Прусіі, Польшчы, Чэхіі і Нямеччыне. А тыя, хто вярнуўся дамоў з фронту і хто заставаўся на

* Жыве Беларусь. 1943, № 6, снежань.

** Туронак Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мінск, 1993. С. 136.

Радзіме, на вялікі жаль, былі рэпрэсіраваны і згінулі ў сталінскіх лагерах. З тых некалькіх тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат, якія прайшлі школу СБМ, у жывых сёння засталіся некалькі дзясяткаў чалавек. Але гэта — шчырыя і адданыя беларусы, сапраўдныя патрыёты нашай Бацькаўшчыны.

## З ГІСТОРЫІ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ АЛЬБЯРЦІНА

### Кардонна-папяровы завод

Першае ўпамінанне аб папяровай вытворчасці ў Альбярціне адносіцца да 1790 года, калі Пуслоўскім быў выдзелены лес і адведзены зямельны ўчастак для будаўніцтва папяровага млына. А ў 1806 годзе, як сведчаць архіўныя дакументы, у Альбярціне адкрылася сапраўдная папяровая фабрыка «действительным Статскимъ Советником Кавалером Пусловскимъ…»*. Фабрыка працавала шмат гадоў, але ў 1814 годзе Пуслоўскія аддалі яе ў арэнду Готлібу Шміту.

З кожным годам попыт на паперу рос. І ў Альбярціне вытворчасць паперы павялічвалася. Так, напрыклад, калі ў 1817 годзе паперы там выраблялі 425 тон, то ў 1818 годзе — 452 тоны. А ў 1834 годзе абсталяванне фабрыкі папоўнілася двума прэсамі і валамі, вялікім і малым чанамі, катлом для варкі клею. Вытворчасць паперы штогод расла тонамі.

У верасні 1915 года Альбярцін быў акупіраваны нямецкімі войскамі. У гэты час частка абсталявання мясцовых прамысловых прадпрыемстваў была вы-

* Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. Ф. 583. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 41.

везена ў Германію. І толькі ў 1927 годзе акцыянернае таварыства, у якім пераважная доля акцый належала Уладзіславу Пуслоўскаму, распачало і закончыла будаўніцтва Альбярцінскай кардонна-папяровай фабрыкі. Гэта было невялікае прадпрыемства. Працавала толькі адна машына. А энергетычная гаспадарка складалася з невялікага паравога катла, лакамабіля, гідратурбіны магутнасцю 70 кілават… На фабрыцы працавалі 200–250 чалавек. Найбольш было жанчын і маладых рабочых, працаваць было цяжка. Праз некалькі гадоў гаспадары прадпрыемства аддалі яе ў арэнду Францішку Вайцэхоўскаму і Вольфу Гурвічу. Але становішча рабочых ад гэтага не палепшылася. Яны жылі ў цесных бараках, паўсюль была антысанітарыя. І рабочыя ўсё часцей і часцей выказвалі гаспадарам прадпрыемства сваё незадавальненне. А ў студзені 1934 года на фабрыцы забаставалі сартавальніцы паперы. Яны патрабавалі павышэння заробку і заключэння калектыўнай дамовы.

1 верасня 1939 года гаспадары кардонна-папяровай фабрыкі аб’явілі, што ў сувязі з пачаткам Другой сусветнай вайны фабрыка закрываецца. Але дваццаць добраахвотнікаў разам з Пятром Чашуном узялі пад ахову фабрыку, млын, вадаспуск, гідратурбіну і чыгунку. А 18 верасня 1939 года ў Альбярцін прыйшла Чырвоная Армія, а разам з ёй — і савецкая ўлада.

Праз два тыдні на кардонна-папяровай фабрыцы адбыўся сход рабочых, які вырашыў аднавіць работу фабрыкі. Першым дырэктарам быў прызначаны Канстанцін Сідарэнка, тэхнічным дырэктарам — Самуіл Фарбер.

На прадпрыемстве ўпершыню ў СССР пачалі выпускаць каляровы кардон. Яго адпраўлялі ў Варонеж, Вільню, Ленінград, Маскву і ў іншыя савецкія гарады.



39

З 9806 тон кардону, выпушчанага ў Беларусі з чэрвеня 1940 года да чэрвеня 1941 года, амаль палавіна была альбярцінскага.

З развіццём фабрыкі пачаў расці і фабрычны пасёлак Альбярцін. З'явіліся свая электрастанцыя, лесазавод, смалакурна-шкіпінарны завод, млын, школа, медпункт, пошта, ашчадная каса і іншыя ўстановы.

За месяц да гадавіны ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР калектыў фабрыкі «Альбярцін» звярнуўся з пісьмом «Да ўсіх рабочых, калгаснікаў, сялян-аднаасобнікаў, служачых, інтэлігенцыі, да ўсіх працоўных Баранавіцкай вобласці» (тады Слонімскі раён уваходзіў у Баранавіцкую вобласць. — *С. Ч.*): «На працягу 20 год тэрыторыя Беларусі была штучна разрэзана надвая. Заходняя яе частка знаходзілася пад ганебным і цяжкім ярмом польскіх паноў. На працягу 20 год народы Заходняй Беларусі таміліся і стагналі пад цяжкім панскім ботам. 20 сумных і страшных год народы Заходняй Беларусі былі адарваны ад сваіх адзінакроўных братоў — ад шчаслівага народа Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі… Урад былой панскай Польшчы ўсё рабіў для таго, каб зламіць дух народа, пазбавіць яго нацыянальнай самасвядомасці, яго культуры і роднай мовы, штучна апалячыць як беларусаў, так і працоўных другіх нацыянальнасцей, зрабіць бязгласнымі і пазбаўленымі ўсякай надзеі на адраджэнне… Працуючы на фабрыцы "Альбярцін", якая ў мінулым належала акцыянернаму таварыству капіталістаў Пуслоўскіх, Чапскіх і другіх, большасць рабочых зарабляла не больш аднаго злота ў дзень. Паступаючы на фабрыку на работу, кожны з нас павінен быў адпрацаваць капіталісту-гаспадару месяц бясплатна. Шырока практыкавалася сістэма штрафаў. За 1938 год і да 16 жніўня 1939 года было

падвергнута штрафам 157 чалавек. Непажаданых панам Пуслоўскім, Чапскім і іншым рабочых выкідвалі з фабрыкі… Цяпер значна палепшыліся ўмовы працы. Мы ўпершыню ў гэтым годзе (маецца на ўвазе 1940 год. — *С. Ч.*) атрымліваем чарговыя водпускі. Валавая выпрацоўка прадукцыі на фабрыцы "Альбярцін" павялічылася на 50 працэнтаў. Замест ранейшай выпрацоўкі 10 тон у суткі — зараз даём па 15 тон у суткі высокаякаснага кардона, прадукцыйнасць працы паднялася ў 2,5–3 разы. Колькасна вырас рабочы калектыў фабрыкі больш чым на 50 працэнтаў. На фабрыцы ёсць 150 чалавек стаханаўцаў, якія выконваюць нормы выпрацоўкі на 200 працэнтаў… Культурна і рацыянальна мы выкарыстоўваем зараз наш выхадны дзень. Калі раней выхадныя дні выкарыстоўваліся для наведвання касцёла і шынкаў, то ў сучасны момант у Нардоме ў выхадныя дні і пасля работы для нас чытаюцца лекцыі, даклады, ліквідуецца непісьменнасць і малапісьменнасць, працуюць гурткі па бягучай палітыцы…»*

Сапраўды, з прыходам у Альбярцін Чырвонай Арміі справы на кардонна-папяровай фабрыцы пачалі наладжвацца. Але хутка пачынаецца Другая сусветная вайна і ў пасёлак прыходзяць немцы. Праўда, і пры нямецкай уладзе фабрыка працавала, там выпускалі толевы кардон. Але хутка прадпрыемства спалілі партызаны, а частку абсталявання вывезлі немцы ў Германію.

У 1949 годзе Савет Міністраў СССР прыняў рашэнне аб пашырэнні альбярцінскага прадпрыемства з мэтай выпуску 16 тысяч тон кардону ў год. А праз год Міністэрства папяровай прамысловасці СССР

---

* Анищик Н. М., Фарбер С. Р., Шевнин А. Н. Народное предприятие «Альбертин». Минск, 1992. С. 15.

прысвоіла фабрыцы «Альбярцін» званне «Прадпрыемства выдатнай якасці».

З 1961 года альбярцінская кардонная фабрыка стала называцца «Беларусь», з 1972 года — кардонна-папяровы камбінат, з 1976 года — кардонна-папяровы завод, з 1990 года — народнае прадпрыемства «Альбярцін». У 1995 годзе народнае прадпрыемства было пераўтворана ў адкрытае акцыянернае таварыства «Слонімскі кардонна-папяровы завод "Альбярцін"». Замест ранейшага аднаго віда кардону завод вырабляе звыш 120 відаў тавараў. Гэта кардон паліграфічны і запалкавы, папера ўпаковачная, пачкавая, крэйдаваная і парафінавая, сурвэткі, шпалеры, канцылярскія і школьныя тавары.

## Суконная фабрыка

Ва ўладанне Пуслоўскіх суконная фабрыка ў Альбярціне перайшла ў 1828 годзе. А заснавана як мануфактура была графам Ф. Замойскім у 1813 годзе. У розны час фабрыка вырабляла сукно, коўдры, корт, трыко, фланель, драп. У 1843 годзе на фабрыцы працавалі 75 ткачых, дзейнічалі 35 прадзільных, 7 пастрыгальных, 10 варсавальных і больш за 60 іншых станкоў, якія прыводзіліся ў рух вадой, коньмі і «ўласнаручна майстравымі людзьмі». У 1843 годзе на суконнай фабрыцы ўжо працавалі 494 рабочыя, а ў 1858 годзе — 503. Сярод іх пераважалі вяскоўцы. Яны атрымлівалі месца ў фабрычным бараку або дазвол на пабудову ўласнай хаты. Для агарода рабочым выдзяляўся невялікі ўчастак зямлі. Дзённы заробак быў невялікі — ён складаў усяго 4–5 капеек. Поруч з вяскоўцамі на фабрыцы працавалі і гараджане, а таксама замежныя вольнанаёмныя майстры, напрыклад, у

1843 годзе іх было 8 чалавек. Пасля 1861 года выпуск прадукцыі дасягаў 128 аршынаў у год.

У 1970–1880-я гады на фабрыцы дзейнічалі 134 ручныя ткацкія станкі, 22 часальныя, 15 прадзільных машын, слясарня. Былі ўстаноўлены дзве новыя паравыя машыны, два паравыя катлы, працавалі сталовая, бальніца на 4–12 ложкаў, фельчар, аптэка. У 1879 годзе на суконнай фабрыцы працавалі 475 наёмных рабочых. Сярэдні заробак наёмнага рабочага складаў 20–60 капеек на дзень*.

У 1891 годзе пры фабрыцы было адкрыта вучылішча. Там рыхтавалі ткачых для працы на фабрыцы.

Сваю прадукцыю суконная фабрыка ў Альбярціне вывозіла на экспарт у многія краіны свету. У 1857 годзе на Варшаўскай, а ў 1882 годзе на Усерасійскай у Маскве прамысловых выстаўках прадукцыя фабрыкі за высокую якасць была адзначана сярэбранымі медалямі. Аднак вытрымаць канкурэнцыю са шмат якімі заходнееўрапейскімі суконнымі фірмамі яна не здолела, і гаспадары закрылі фабрыку, якая існавала 70 гадоў, папрадавалі абсталяванне, тэхніку і за вырučаныя грошы будавалі іншыя прадпрыемствы.

## Чыгуналіцейны завод

Чыгуналіцейны завод бельгійца Барэ ў Альбярціне дзейнічаў 86 гадоў — з 1828 да 1914. У 1830 годзе ў Альбярціне быў пабудаваны мураваны будынак для плаўкі чыгуну. Завод пачаў вырабляць сячкарні, млынавыя машыны, веялкі і іншыя сельскагаспадарчыя прылады, а з 1900 года — турбіны для вадзяных млыноў.

---

* Памяць. Слонімскі раён: Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Мінск, 2004. С. 133.

З 1903 года чыгуналіцейны завод стаў называцца машынабудаўнічым заводам. Ён займеў чыгуналіцейную печ і тры такарныя станкі. Завод хутка наладзіў выпуск посуду для вінакурняў і піваварняў, драцяныя і шавецкія цвікі, шпількі, потым — вадзяныя турбіны, малатарні, абсталяванне для млыноў і крупадзёрак. У пачатку XX стагоддзя на заводзе працавалі 50 рабочых.

## Лесапільна-сталярная фабрыка

Фабрыка дзейнічала ў 1894–1914 гады. Належала яна акцыянернаму таварыству «Заходнеруская фабрыка механічнай апрацоўкі дрэва». Фабрыка вырабляла дошкі, брусы, рэйкі, дзвярныя і аконныя рамы. У 1913 годзе на ёй працавалі 85 чалавек.

## Іншыя прадпрыемствы

У канцы XIX – пачатку XX стагоддзя ў Альбярціне дзейнічалі і шэраг іншых прадпрыемстваў. Гэта шоўкакруцільная фабрыка «Боньвуа», якая існавала на працягу 20 гадоў. Яна была заснавана ў 1894 годзе. На ёй выпускаліся аснова і ўток для тканіны.

Дывановая мануфактура дзейнічала ў 1832–1850 гадах. Вырабляла 1,5 тысячы аршынаў (1065 м) дывановых вырабаў за год. На ёй працавалі 70 рабочых.

Некалькі гадоў напачатку XX стагоддзя ў Альбярціне існаваў электралямпавы завод «Альба», на якім працавалі каля ста рабочых. Гэта было першае на Беларусі прадпрыемства такога профілю.

Напрыканцы XIX стагоддзя ў Беларусі працавалі 14 паўсаматужных запалкавых фабрык. Сярод іх была

фабрыка і ў Альбярціне. Яе адкрылі О. Гавінавіцкі і Ю. і М. Маркусы. Фабрыка мела назву «Шчара».

З 1907 да 1913 года ў Альбярціне дзейнічалі драцяное і мукамольнае прадпрыемствы, з 1905 года — завод цвікоў Пінуса.

У 1823 годзе на рацэ Ісе была пабудавана драўляназемляная плаціна з двума шлюзамі, што дазволіла прымяняць вадзяны прывод. У 1886 годзе ў Альбярціне з'явілася гідраэлектрастанцыя і была пракладзена чыгунка. Дарэчы, з Альбярціна можна было заехаць па чыгунцы ў Слонім, Баранавічы, Беласток, Варшаву. Атрымаўшы ад Міністэрства шляхоў зносін немалую грашовую кампенсацыю за землі, што пайшлі пад чыгунку, Пуслоўскія надзялілі зямельнымі ўчасткамі тых рабочых, чые прысядзібныя землі і хаты паглынула будаўніцтва.

## АЛЬБЯРЦІН, 1929 ГОД

Вёска ў Слонімскім павеце Шылавіцкай гміны. Налічвала яна тады 839 жыхароў. Дзейнічала чыгуначная станцыя Ваўкавыск – Слонім, былі пошта і тэлефон. Працавалі Польскі крэсавы саюз і Саюз хрысціянскіх рамеснікаў.

Землеўласнікам быў Уладзіслаў Пуслоўскі. У яго ў Альбярціне меліся ўласныя цагельня, электрастанцыя, механічныя майстэрні, фабрыка змазкі, смалакурня, тартак «Альбярцін».

Бондарам быў Я. Куніца.

Бляхаром — К. Лакуця.

Цеслярамі — Н. Крот, Ю. Майсюк.

Каменяломні мелі Д. Петруковіч і П. Зурын.

Кавярню ўтрымліваў К. Саліта.



45

Кавалямі працавалі К. Анджаеўскі, Ю. Гайдэцкі, А. Лёкуця, Д. Прышляк.

Добрым краўцом быў Куніца.

Лясы эксплуатаваў і меў уласны тартак нехта Л. Айзенштадт.

Млын арандаваў Ш. Беркавіч.

Мулярамі працавалі Ю. Мушынскі, П. Табароўскі, П. Валюшкевіч.

Агародніцкія прадпрыемствы ўтрымліваў К. Голдзінскі.

Смачны хлеб выпякала пякарня Н. Зубжыцкага.

Смалакурню акрамя Пуслоўскага меў і Г. Заблудаўскі.

Выпускам харчовых тавараў займаліся Ф. Беркавіч, Е. Якімоўская, Б. Казакевіч, З. Суднік, К. Тась, Е. Ткачоў.

Сталярамі працавалі Л. Бараноўскі, П. Бараноўскі, Ю. Ярашчук, Ю. Майсюк, Е. Мушынскі, М. Серафіновіч, Ю. Селюковіч, К. Сенька.

Добрымі шаўцамі лічыліся В. Беркус, А. Бертнер, К. Раўніцкі.

Слесарамі былі К. Беркус, М. Букач, А. Данялюк, М. Каліноўскі, П. Кароль, Я. Пялецкі, М. Пігас.

Спіртныя напіткі на разліў прадаваў толькі пан І. Суднік.

## ГЕНЕРАЛ ЯЎГЕН ЛЕАШЭНЯ

Генерал-лейтэнант інжынерных войск Яўген Леашэня быў не толькі вайскоўцам, але і заўзятым беларускім краязнаўцам. Генерал Леашэня напісаў гісторыю Слоніма і Слонімшчыны, а перад смерцю перадаў яе ў Слонімскі краязнаўчы музей імя Язэпа Стаброўскага, дзе і па сённяшні дзень захоўваюцца тоўстыя рукапісныя тамы з дакументамі і фотаздымкамі.

Нарадзіўся Яўген Леашэня ў снежні 1900 года ў Альбярціне. Спачатку з чаравікамі за спінаю бегаў басанож уздоўж чыгуначнага палатна ў Слонімскае вышэйшае пачатковае вучылішча, якое давала яму адукацыю ў аб'ёме сучаснай дзевяцігодкі. Пра гэта аўтару кнігі пры жыцці часта расказаў старэйшы беларускі паэт Сяргей Новік-Пяюн, які добра ведаў Яўгена Леашэню. Сяргей Міхайлавіч прыгадваў:

«Яшчэ да кастрычніцкага перавароту ў Расіі на галоўнай вуліцы Слоніма каля вітрыны кнігарні Венцыяна Любоўскага можна было заўважыць сціплага юнака, які падоўгу разглядаў кнігі. Пастаіць, пастаіць і пойдзе. Зацікавіла гэта кнігара, і аднойчы ён не стрываў, запытаў:

— Малады чалавек, а чаму вы ніколі не заходзіце да мяне ў краму?

Хлопец збянтэжыўся, пачырванеў, апусціў вочы на свае стаптаныя чаравікі.

— Вы, пэўна, любіце кнігі? — распытваў далей Любоўскі.

— Вельмі.

— Дык чаму ж не заходзіце?

— Грошай няма. Я працую на Альбярцінскай фабрыцы графа Пуслоўскага. Зарабляю мала.

— Нічога, калі-небудзь заробіце больш. А пакуль што заходзьце без грошай!

І кнігар павёў хлопца ў сваю бібліятэку, якая знаходзілася ў падвале кнігарні.

— Выбірайце любыя кніжкі, ды так, каб вам на тыдзень чытаць хапіла. А ў наступную нядзелю возьмеце яшчэ.

У хлопца ах вочы заблішчэлі ад радасці. З таго часу кожную нядзелю прыходзіў ён да Любоўскага і ніколі не выходзіў з пустымі рукамі…



47

У верасні 1939 года Чырвоная Армія выгнала палякаў са Слоніма. Перад кнігарняй Любоўскага затрымалася ваенная машына. Станісты афіцэр выйшаў з машыны і накіраваўся ў краму. Увайшоўшы, узяў пад казырок:

— Добры дзень, спадар Любоўскі! Ці памятаеце вы таго альбярцінскага хлопца, якому давалі чытаць кніжкі?

— Як жа, як жа, памятаю…

— А ці ведаеце вы, што тыя кніжкі дапамаглі хлопцу стаць палкоўнікам Чырвонай Арміі, які стаіць перад вамі?..

Вайсковец абняў і пацалаваў усхваляванага кнігара, а потым пасадзіў яго ў машыну і павёз у свой родны Альбярцін.

Доўга гутарылі былыя сябры. Было ім аб чым пагаварыць. А калі апынуліся ў розных мясцінах, пачалі перапісвацца. Часта паказваў мне стары Любоўскі пісьмы, што прыходзілі ад Леашэні з Масквы, і змахваў з вачэй слёзы радасці. У 1944 годзе, калі вайна адышла на захад ад Слоніма, днём і ноччу праходзілі па горадзе савецкія часці, грукаталі па бруку танкі і гарматы. Каля дома гісторыка-краязнаўчага музея, дырэктарам якога я быў на той час, спынілася легкавушка. У памяшканне ў суправаджэнні афіцэраў зайшоў генерал і пачаў аглядаць здымкі на сценах фае.

— А вось і мой родны Альбярцін! — узрадавана паказаў генерал Леашэня на адзін са здымкаў.

— Прабачце, вы генерал-маёр Леашэня? — падышоў я да яго.

— Але… Адкуль вы ведаеце маё прозвішча? — здзівіўся ён.

— Мне пра вас расказваў Любоўскі, — дадаў я.

— Дзе ж ён цяпер, — усхвалявана спытаў генерал.

— Расстралялі фашысты.

Леашэня спахмурнеў, зняў фуражку. Пастаяў некалькі хвілін моўчкі, а потым развітаўся і выйшаў…».

У Першую сусветную вайну сям'я Леашэняў пераехала ў Петраград, але там была нядоўга. Вярнуўшыся на радзіму, Яўген Леашэня пачаў працаваць настаўнікам у вёсцы Жарабілаўка былой Баранавіцкай вобласці. А затым па прапанове аднаго батальённага камісара ён рашыў стаць ваенным і летам гэтага ж года запісаўся ў Чырвоную Армію.

У 1930-я гады Яўген Леашэня становіцца слухачом Ваеннай акадэміі імя Фрунзе. Там упершыню ён сустракаецца з Дзмітрыем Карбышавым — вядомым спецыялістам ваенна-інжынернай справы. Паміж маладым слухачом і начальнікам кафедры завязалася моцная дружба. Карбышаў прымаў удзел у мадэрнізацыі Брэсцкай крэпасці перад Першай сусветнай вайной і кансультаваў будаўніцтва абарончых ліній у многіх беларускіх пагранічных гарадах напярэдадні Другой сусветнай вайны і таму добра ведаў і вельмі любіў Беларусь. Але галоўную павагу выдатнага спецыяліста Леашэня заслужыў самастойнасцю думкі і ўменнем адстойваць свае перакананні. Калі ад Ваенна-інжынернай акадэміі імя Фрунзе адышла Акадэмія Генеральнага штаба, Карбышаў быў запрошаны на працу ў зноў створаную акадэмію і рэкамендаваў на сваё месца Яўгена Леашэню, які ўжо скончыў да тае пары ад'юнктуру.

Яўген Леашэня шмат працаваў над удасканаленнем ваенна-інжынернай школы, развіваў тэорыю тактыкі інжынерных войск, тэорыю інжынернага забеспячэння бою і аперацыі.

У гады Другой сусветнай вайны Яўген Леашэня выконваў абавязкі начальніка інжынерных войск Маскоўскага абарончага рубяжа, пасля быў начальнікам



49

штаба аператыўнай групы інжынерных загарод стаўкі Вярхоўнага галоўнага камандавання ў абароне Масквы, прымаў таксама ўдзел у абароне Севастопаля і Крыма.

У 1944 годзе на пасадзе начальніка штаба інжынерных войск Першага Беларускага фронту вызваляў родную Беларусь, сваю Слонімшчыну. Дайшоў да Берліна, удзельнічаў у разгроме Квантунскай арміі на Далёкім Усходзе.

Пасля вайны Яўген Леашэня ўзначальваў кафедру інжынерных войск Ваенна-інжынернай акадэміі імя Куйбышава па навуковай і вучэбнай рабоце.

Пяць гадоў генерал Леашэня адпрацаваў выкладчыкам у Ваенна-тэхнічнай акадэміі Войска Польскага ў Варшаве. Дарэчы, ён быў адным з яе заснавальнікаў.

Як бачыце, шмат работы і спраў было ў альбярцінскага генерала Леашэні. Але, нягледзячы на сваю занятасць, Яўген Варфаламеевіч любіў і цаніў беларускую мову, культуру і гісторыю. Прыкладам гэтаму можа служыць яго знаёмства з многімі беларускімі дзеячамі літаратуры і мастацтва. Асабліва шчырым было яго знаёмства з Якубам Коласам.

Імя Якуба Коласа Яўген Леашэня пачуў яшчэ тады, калі вучыўся ў Альбярцінскім двухкласным вучылішчы (1912–1914 гг.), дзе выкладаў тады перадавы беларускі настаўнік Восіп Іванавіч Петрашкевіч. Ён знаёміў сваіх вучняў з творамі Янкі Купалы, Францішка Багушэвіча, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Гутаркі аб беларускай літаратуры Восіп Петрашкевіч праводзіў не ў класе, а ў школьным садзе або падчас экскурсіі ў лесе, на беразе ракі Ісы, на Альбярцінскім возеры…

У пачатку лістапада 1942 года ў Ташкенце, у доме Савецкай Арміі адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У прэзідыуме сходу былі прадстаўнікі Вярхоўнага Савета і члены ўрада БССР. У цэнтры

сядзеў сам юбіляр, дарагі ўсім чалавек — Якуб Колас. Ён быў вельмі ўсхваляваны: не чакаў, што ў такі цяжкі для краіны час яго будуць віншаваць.

Ад імя арміі, Ваеннай акадэміі і франтавікоў юбіляра вітаў Яўген Леашэня. У перапынку Якуб Колас падышоў да Яўгена Варфаламеевіча, пацiснуў руку і падзякаваў за цёплыя словы. У лютым 1943 года адбыўся чарговы выпуск Ваеннай акадэміі імя Фрунзе, і Яўген Леашэня запрасіў Якуба Коласа на ўрачыстасць.

У красавіку 1943 года Ваенная акадэмія імя Фрунзе (Леашэня тады працаваў начальнікам кафедры інжынерных войск. — *С. Ч.*) вярталася ў Маскву. Альбярцінец пакідаў Ташкент. Цёплым вясновым надвячоркам 15 красавіка Яўген Варфаламеевіч развітаўся з Якубам Коласам.

У 1944 годзе Леашэня зноў накіраваўся на фронт. Пачаў перапісвацца з Якубам Коласам, расказваў пра вызваленую заходнюю частку Беларусі, пра сустрэчу з маці. Толькі ў 1954 годзе Яўген Леашэня вярнуўся ў Маскву. Зноў пачаў працаваць, аднавілася і перапіска з Якубам Коласам.

Неўзабаве альбярцінца перавялі працаваць за мяжу, і ліставанне з Якубам Коласам перапынілася. Толькі з газет даведаўся ён аб смерці беларускага песняра. Засталіся на ўсё жыццё цёплыя ўспаміны сустрэч і кніжка вершаў «Голас зямлі», выдадзеная Дзяржаўным выдавецтвам Узбекістана да 60-годдзя паэта, з аўтографам: «На ўспамін земляку — палкоўніку Леашэню. Якуб Колас. Ташкент, 1942 г.».

У снежні 1981 года не стала і генерал-лейтэнанта Яўгена Леашэні — удзельніка трох войнаў (грамадзянскай, Другой сусветнай і вайны з Японіяй), кавалера ордэнаў Леніна, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны, Кутузава, Багдана Хмяльніцкага.


51

У 1984 годзе вуліца, якая вядзе са Слоніма на мікрараён Альбярцін, пачала насіць яго імя, а на адным з будынкаў вуліцы была адкрыта мемарыяльная дошка. На жаль, цяпер гэтай шыльды няма, дзесьці прапала. І ніхто да сённяшняга дня не парупіўся яе знайсці, аднавіць, замацаваць на будынку. Тым не менш, старэйшыя альбярцінцы памятаюць свайго слыннага земляка Яўгена Леашэню.

## АЛЬБЯРЦІНЕЦ, ЯКІ БЫЎ МАРШАЛКАМ СЕЙМА ПОЛЬШЧЫ

Багата Слонімшчына на таленавітых людзей. Але лёс многіх з іх склаўся так, што ўсё сваё свядомае жыццё яны пражылі ў іншых краінах свету. Пра многіх пры іх жыцці мы нават і не ведалі.

Асабліва шмат слонімцаў жыве ў Польшчы. Нядаўна ўдалося адшукаць звесткі пра польскага палітыка, сацыёлага, публіцыста, доктара гуманітарных навук, прафесара Мікалая Казакевіча. Мікалай Казакевіч з 1989 да 1991 года быў маршалкам (спікерам парламента) Сейма Польшчы X склікання, гэтак званага Кантрактнага Сейма.

Бацька Мікаля Казакевіча быў родам з Віцебшчыны. Калі пачалася рэвалюцыя ў Расіі ў 1917 годзе, ён дабравольцам пайшоў у польскую пятую Сібірскую дывізію генерала Чумы, якая супрацоўнічала з арміяй адмірала Калчака. Ад Калчака старэйшы Казакевіч нават атрымаў Георгіеўскі крыж. А калі ў 1920 годзе бальшавікі занялі Сібір, бацьку Мікалая Казакевіча ўзялі ў палон. Як палонны ён працаваў у адным з сібірскіх атрадаў, які шукаў серабро. Праўда, праз год у выніку абмену ваеннапалоннымі сям’я Казакевіч прыехала ў Слонім.



52

У Сібіры ў Казакевіча закахалася дачка Аляксея Чудагашава, які быў кіраўніком хакаскага племені манголаў, праваслаўнага веравызнання. Але яе маці была з роду Янкоўскіх, ды яшчэ каталічкай. Сям'я Чудагашавых займалася конегадоўляй і гандлявала з суседнім Кітаем. Пляменнікі Чудагашавых умела палявалі на собаляў і мелі вялікі прыбытак. Адным словам, сям'я Чудагашавых была даволі багатай, а таксама ўсе падтрымлівалі дзейнасць і палітыку Калчака і не любілі бальшавікоў.

У Сібіры ў сям'і Казакевічаў нарадзіліся дачка і сын. Усе яны разам за некалькі месяцаў дабраліся да Слоніма. А высакародны арыстакрат Войцэх Пуслоўскі падараваў Казакевічам у Альбярціне ўчастак зямлі і даў мажлівасць на гэтым участку пабудаваць дом. Акрамя гэтага, яны адкрылі яшчэ ў Альбярціне сваю харчова-прамысловую краму, а таксама сам гаспадар — паручнік у адстаўцы — атрымліваў штомесячную кампенсацыю з войска.

У 1923 годзе ў Альбярціне ў сям'і Казакевічаў нараджаецца сын Мікалай. Дзяцінства хлопчыка прайшло ў Альбярціне сярод беларускіх, польскіх і яўрэйскіх дзяцей. Але ў 1929 годзе Казакевічы пераязджаюць у Слонім. Гэта было звязана найперш з тым, што старэйшая сястра Мікалая паступае ў ліцэй, і штодзённа дзесяць кіламетраў дадому са Слоніма ў Альбярцін ёй было дабірацца цяжка.

У Слоніме Казакевічы пабудавалі вялікі драўляны дом, а побач адкрылі новую манапольную краму. Ды і бацька Мікалая як ваенны інвалід атрымаў ліцэнзію на гандаль гарэлкаю і тытунём. І хоць большая палова жыхароў Слоніма ў той час аддавала перавагу самагонцы і самасейцы, вайскоўцы і чыноўнікі горада над Шчарай былі пастаяннымі кліентамі іх крамы і менавіта яны давалі прыбытак сям'і.


53

У краме гандлявала маці. За гэтыя гады яна вывучыла польскую і беларускую мовы. На якой мове пакупнікі ў краме да яе звярталіся, на такой яна ім і адказвала. Ды і сяброў у сям'і Казакевічаў у Слоніме з кожным годам павялічвалася.

Мікалай з братам былі каталікі, а сястра — праваслаўная. Але бывала так, што на святы ўсе разам наведвалі і каталіцкія, і праваслаўныя слонімскія храмы. Адным словам, у Слоніме Казакевічам жылося вельмі добра. Але калі сястра скончыла ліцэй і паступіла ў Віленскі ўніверсітэт, нашы землякі ў Слоніме ўсё прадалі і пераехалі ў Вільню, дзе купілі трохі зямлі і невялікі домік на скрыжаванні вуліц Пілсудскага і Наваградскай. «На гэтым участку, — успамінаў Мікалай Казакевіч, — бацька планаваў пабудаваць мураваны дом з магазінам, а ўдалося яму толькі памяняць плот і пабудаваць мураваную пральню з пракладзеным водаправодам, унітазам і праточнай вадою. Гэта быў першы ўнітаз у маім жыцці. Будова планавалася пачацца ў 1939 годзе, але ў снежні 1938 года бацькі раптоўна не стала. Ён памёр ад запалення лёгкіх».

Пасля смерці бацькі для сям'і Казакевічаў наступілі нялёгкія часы. Але дзеці пацiху атрымлівалі адукацыю. Мікалай пасля агульнай школы вучыўся ў мужчынскім ліцэі імя караля Зыгмунда Аўгуста, а потым — у беларускай гімназіі.

Калі пачалася вайна, юнак быў моцна паранены. А калі ачуняў, працаваў фізічна на розных работах. Пасля вайны нават быў арыштаваны органамі НКВД. З кіпцюроў НКВД дапамог вызваліцца ягоны сябра.

У другой палове 1940-х гадоў Казакевічы пераязджаюць у Польшчу і Мікалай паступае на філасофскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, які скончыў са



54

ступенню магістра. Пасля абараніў доктарскую дысертацыю, стаў прафесарам.

У 1947 годзе Мікалай уступае ў сялянскую партыю Стронніцтво людовэ, а пасля яе аб'яднання з партыяй З'едночонэ стронніцтво людовэ (ЗСЛ), быў яе сябрам і да канца яе дзейнасці (да 1989 года) прымаў актыўны ўдзел у партыйнай рабоце.

Падчас ваеннага становішча ў Польшчы Мікалай Казакевіч быў адным з заснавальнікаў і членам Прэзідыума Часовай краёвай рады Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння Польшчы (1982–1983 гг.). У 1985 годзе ўпершыню стаў дэпутатам Польскага Сейма. Быў намеснікам старшыні парламенцкай камісіі нацыянальнай адукацыі і моладзі, а таксама членам камісіі па навуцы і тэхнічным прагрэсе. У Сейме X склікання (1989–1991 гг.), выбраным згодна з рашэннем пагадненняў, дасягнутых з дэмакратычнай апазіцыяй, выконваў абавязкі дэпутата ад партыі ЗСЛ, а пасля ад партыі Польске стронніцтво людовэ. З 4 ліпеня 1989 года быў спікерам парламента да датэрміновага яго роспуску. А ў 1991 годзе зноў абіраецца дэпутатам Сейма і прымае актыўны ўдзел у парламенцкіх камісіі замежных спраў, канстытуцыйнай камісіі Нацыянальнага Сходу, спецкамісіі па абмеркаванні праектаў канстытуцыйных законаў «Хартыя правоў і свабод».

Мікалай Казакевіч у свой час актыўна прэзентаваў польскі парламент на міжнародным форуме як прадстаўнік дэлегацыі Сейма і Сената Рэспублікі Польшча ў Паўночнаатлантычнай Асамблеі. Ён уваходзіў у склад заснавальніцкай рады Народна-дэмакратычнай партыі Польшчы.

Спіс усіх палітычных пасад Мікалая Казакевіча можна яшчэ працягваць. Але акрамя палітыкі наш зямляк з Альбярціна актыўна займаўся і навукай. Ён


55

працаваў у аддзеле сацыялогіі Інстытута развіцця вёскі і сельскай гаспадаркі Польскай акадэміі навук. Быў заснавальнікам Польскага педагагічнага таварыства і намеснікам старшыні Міжнароднай федэрацыі планавання сям'і рэгіёна Еўропы. Мікалай Казакевіч напісаў і выдаў дзясяткі кніг па педагогіцы, філасофіі, выхаванні і сацыялогіі, а таксама кнігу парламенцкіх мемуараў «Быў я маршалкам кантрактнага…». Навукова-папулярныя яго кнігі для моладзі і пра моладзь выдаваліся ў Варшаве, Жэневе, Рыме, Лондане і ў іншых гарадах свету.

Мікалая Казакевіча не стала ў 1998 годзе. Ён пахаваны ў Варшаве. Кожны раз пры жыцці, калі журналісты прасілі нашага земляка расказаць пра сваё жыццё, ён заўсёды прыгадваў родны Альбярцін 1920–1930-х гадоў. У польскім часопісе «Przeglad Spoleczny» (№ 3–4, 1998) Мікалай Казакевіч апублікаваў свае жыццёвыя «Запісы» за 1926 год. У іх ён хораша і праўдзіва прыгадвае Альбярцін:

«Альбярцін раскінуўся на пласкагор'і, якое апускалася з поўначы на поўдзень у напрамку невялікага возера. У гэтай частцы пасёлка знаходзіўся падобны на класічны палац графаў Пуслоўскіх. Яго фасад трохі напамінаў Палац на вадзе ў Лазенках у Варшаве. Гэтую прыгожую сядзібу Пуслоўскіх абкружаў намнога прыгажэйшы за яе ліставы парк. На другім канцы Альбярціна стаялі пабудовы кляштара айцоў езуітаў грэка-каталіцкага абраду. Белыя муры кляштара напаміналі казармы, але шматлікія і мілагучныя званы заўсёды пераконвалі, што гэта сакральны аб'ект і сядзіба яго слуг. Недалёка ад нашага дома на высокім падмурку стаяла драўляная каплічка каталіцкага касцёла. У нядзелю выразна было чуваць ціхі звон, які заклікаў вернікаў на набажэнства. А штодзень апоўдні

адбываўся арганізаваны манахамі канцэрт царкоўных званоў.

Калі казаць пра насельніцтва Альбярціна, то пераважную большасць складалі там беларусы. Размаўлялі яны па-беларуску. Пасля заканчэння польскай школы моладзь ведала польскую мову, але карысталася ёю зрэдку або толькі ў кантактах з палякамі. Звычайна гэтае насельніцтва размаўляла "па-тутэйшаму". Але гэта была не чыстая беларуская мова.

Усе мясцовыя сяляне, у тым ліку і беларусы, жылі ў цяжкіх матэрыяльных умовах. Вясною, калі канчаліся запасы, сярод дзяцей пашыраліся рахіт і "курыная слепата", выкліканыя авітамінозам — недахопам вітаміну А.

Цяжкія ўмовы жыцця беларускага селяніна на ўсходніх крэсах Польшчы стваралі спрыяльную глебу для камуністычнай агітацыі, накіраванай супраць "польскіх паноў". Прапагандысты пераконвалі, што ў СССР няма эксплуатататараў і пануе паўсюдная сацыяльная справядлівасць. А ў Польшчы зямля знаходзіцца ў руках памешчыкаў, таму селянін — галадае. Пераконваючым для альбярцінцаў быў факт, што гаспадарка графа Пуслоўскага налічвала тысячы гектараў і не ўсе землі абрабляліся належным чынам. Таму вялікія палосы грунтаў ляжалі аблогай, калі многія людзі адчувалі патрэбу ў зямлі. Адтуль бралася нежаданне, а нават і нянавісць "мясцовага" насельніцтва да польскага. Гэтая нянавісць схіляла маладых беларусаў да актыўнага ўдзелу ў нелегальных камуністычных арганізацыях, якія падтрымліваліся агентамі з усходу.

Польская паліцыя даволі часта выяўляла камуністычныя ячэйкі. Тады арыштоўваліся члены гэтых арганізацый. Прыгадваю сабе дзясяткі і сотні беларускіх сялян, канваіраваных коннай паліцыяй у



57

турму ў Слонім. Гэта было падобна на дэпартацыю польскіх патрыётаў у царскі час.

Сярод жыхароў Альбярціна даволі вялікую групу складалі ўкраінцы. Гэта былі ў асноўным балахоўцы — былыя жаўнеры генерала Станіслава Булак-Балаховіча, якія пасля вайны 1920 года былі ў Польшчы дэмабілізаваныя. Не маглі яны вярнуцца ў савецкую Украіну, бо там чакалі б іх рэпрэсіі за супрацоўніцтва з Пілсудскім. быў гэта "непакорны" элемент. Гэтыя людзі не маглі прыстасавацца да цяжкіх пасляваенных умоў. Яны страцілі ўсе спадзяванні і надзеі. Многія з іх пакутавалі ад алкагалізму. Сувязь з суайчыннікамі балахоўцы-украінцы падтрымлівалі, арганізуючы між іншым хоры і канцэрты, дзе ў сваіх песнях выказвалі тугу па роднай старонцы. Радаснай падзеяй для гэтай меншаснай групы быў прыезд у Слонім, а потым у Альбярцін хору і балета княгіні Гагарыны. Гэты хор па-майстэрску прэзентаваў рускія і ўкраінскія песні і танцы. Хор складаўся з "белых" эмігрантаў і вандраваў ён па многіх краінах, але заўсёды па-за межамі Расіі, Украіны і Беларусі.

Яўрэйскіх сем'яў у Альбярціне было няшмат. Займаліся яны пераважна кравецкай і шавецкай справамі. Летам у Альбярцін прыязджала многа яўрэйскіх сем'яў, найчасцей са Слоніма, на лецішча — "гепен" — свежае дыханне. Гэтыя сем'і здымалі ў сялян асобныя пакоі. Старэйшыя яўрэі большасць часу праводзілі ў гамаках і дбалі пра добрае харчаванне дзяцей, якія гаманілі і бегалі па наваколлі і суседніх лясах. Пад канец лета ад "летнікаў" у Альбярціне заставалася шмат смецця, асабліва на лясных палянах.

Сярод канфесій альбярцінскай грамадскасці дамінавала праваслаўе. Католікі складалі нешматлікую групу і былі імі галоўным чынам палякі. Паступова



58

павялічвалася колькасць грэка-католікаў. Гэтая з’ява, бясспрэчна, была заслугай місійнай дзейнасці езуітаў. Працягвалі яны ў Альбярціне акцыю, якая распачалася ў царскі час і мэтай якой было супрацьстаянне царату і праваслаўю на польскіх землях. У гэтым напрамку вялася шматвектарная дзейнасць. Яе галоўнай мэтай было — пераламанне прыроднай варожасці беларускага селяніна да палякаў. Езуіты былі вельмі актыўныя. Паралельна з місійнымі дзеяннямі яны вялі розныя эканамічныя мерапрыемствы. Найперш саджалі агароды і сады. Пастаўлялі мясцовым сялянам бясплатна якаснае насенне, фруктовыя дрэўцы найлепшых гатункаў, давалі парады па пчалярству. Пры кляштары працаваў дзіцячы садок. У час палявых работ сялянскія дзеці маглі ім карыстацца бясплатна. Езуіты ўсе паслугі — хрышчэнні, вянчанні, пахаванні і г. д. — выконвалі бясплатна. А праваслаўныя святары за ўсё патрабавалі аплату.

Усе ініцыятывы езуітаў паступова заваёўвалі прыхільнасць беларускіх сялян, якія не разбіраліся ў тэалагічных і дагматычных розніцах. Непрыкметна для сябе мясцовыя беларусы станавіліся грэка-католікамі. На набажэнствы ў кляштар прыцягваў людзей цудоўны хор, а пропаведзі чыталіся на беларускай ці рускай мовах. Сярод місіянераў дамініравалі палякі, хаця было таксама некалькі французаў, якіх выдаваў акцэнт падчас чытання літургічных тэкстаў…»*

---

* Przeglad Spoleczny, 1998, № 3–4. С. 23. Пераклад Віталя Лубы.

## ДВА ГАДЫ Ў АЛЬБЯРЦІНЕ

Шмат гадоў шукаю сляды таленавітага беларускага паэта, драматурга, празаіка і публіцыста Тодара Лебяды (Пятра Фёдаравіча Шырокава). Нямала звестак і твораў знойдзена, сёе-тое апублікавана. Тодар Лебяда ўпершыню ў беларускай літаратуры смела і адкрыта паказаў жахі сталінскага тэрору, знішчэнне беларускай нацыі. Імя літаратара на працягу некалькі дзясяткаў гадоў было забытае і выкраслена з гісторыі беларускай літаратуры. Але час вяртае таленты з небыцця. Вяртаецца паціху і творчасць Тодара Лебяды.

Ён любіў Беларусь, любіў свой родны горад Віцебск, якому прысвяціў безліч паэтычных радкоў. А гэтыя ён напісаў у 1960 годзе і надрукаваў у слонімскай раённай газеце «Вольная праца»:

Ёсць рэчка такая,
Лучосай завецца,
Над рэчкаю сад наш і дом;
Там спелыя вішні
Ружовым суквеццем
Схіляюцца ўніз
Над вадой…

Размова ідзе пра Віцебск, дзе 6 студзеня 1914 года нарадзіўся Пятро Шырокаў. Рана застаўся без бацькі, выхаваннем сына займалася маці Настасся Карпаўна Паедава.

Пасля Віцебскай сямігодкі Пятрок Шырокаў паступае ў рамеснае вучылішча чыгуначнікаў. Яшчэ ў школе пачынае пісаць вершы, а ўжо ў вучылішчы цвёрда вырашае займацца літаратурай. У 1933 годзе паступае ў Мінскі педагагічны інстытут. Яго нарысы і вершы друкуюцца ў газетах «Віцебскі рабочы», «Савецкая Бе-

ларусь» і «Піянер Беларусі». У інстытуце ён знаёміцца і сябруе з Уладзімірам Клішэвічам, Масеем Сяднёвым, Якубам Ермаловічам, Міколам Гваздовым і іншымі аўтарамі-пачаткоўцамі. Тут ён знаёміцца і з яўрэйкаю Басяй Цыпінай, якая была на сем гадоў старэйшая за яго. Цяжкія матэрыяльныя ўмовы вымушаюць Пятра Шырокава быць бліжэй да гэтай багатай мінчанкі-аднакурсніцы. Але, мабыць, гэта яна ўмела прывабіла беларускага рахманага хлопца. Пра гэта добра напісаў у сваім рамане «Раман Корзюк» Масей Сяднёў:

«…Скончылася лекцыя Піятуховіча, і студэнты высыпалі на перапынак на алідор… Пятрок Шыракоў з Цыпінай і з некаторымі іншымі студэнтамі заставаліся ў аўдыторыі, на калідор не выходзілі. Цыпіна карміла Шыракова бутэрбродамі, якія яна прыносіла з дому і якімі яна спадзявалася ўтрымаць пры сабе галоднага Шыракова. Шыракоў напачатку адмаўляўся ад пачастунку, але Бася ўмела яго ўгаварыць, і Пятрок згаджаўся, вымаў з кішэні сьцізорык і гаварыў:

— Ну, калі ты ўжо гэтак просіш, адрэжу ад цябе на капейку!

Потым Пятрок пачаў адразаць і на рубель. Нарэшце, Пятрок сьцізорыка ўжо не вымаў, а браў Басіны бутэрброды цалком… Гэтак вось і цяпер, зьеўшы бутэрброд, ён выцягнуў за руку з-за стала Басю і закружыўся з ёй у вальсе каля прафэсарскай кафэдры. Вальс ён граў сам сабе на губах. Трымаючы Басю шчыльна, але настолькі, каб можна было сваім корпусам адкінуцца назад, Пятрок кружыў Басю да шаламлівасьці, і яна, быццам у вялікай жарсьці, клала яму сваю галаву на плячо, заглядаючыся ў ягоныя вочы знарок спакусьліва і міргліва. Потым ініцыятыву забірала Цыпіна, пачынала знарок круціць Петрака налева, ведаючы, што ён умее

танцаваць толькі ў адзін бок. Гэта называлася вальсам Цыпінай. Прысутныя сьмяяліся і білі ім у ладкі…»*

У 1936 годзе, хоць шлюб і не быў зарэгістраваны, Бася Цыпіна нарадзіла ад Пятра Шырокава дачку Алесю, якую ў пасведчанні аб нараджэнні так і запісала: Шырокава Аляксандра Пятроўна, 1936 года нараджэння… Але ў гэты час бацьку Алесі і яшчэ адзінаццаць студэнтаў інстытута абвінавацілі ў «буржуазным нацыяналізме». Яны апынуліся аж у Новасібірскай вобласці. Пятро Шырокаў быў асуджаны на пяць гадоў, Якуб Ермаловіч і Масей Сяднёў на шэсць гадоў і г. д. Шырокаву ўдалося ўладкавацца кавалём, а некаторых яго сяброў закінулі аж на Камчатку.

За сувязь з «ворагам народа» Басю Цыпіну на апошнім курсе выключылі з інстытута. Работу ў Мінску ёй не давалі, сачылі за кожным крокам. Але настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй не хапала, і таму яе літасціва накіравалі ў Смалявіцкую сярэднюю школу выкладаць беларускую мову і літаратуру. З ёю паехала і дачка.

У Смалявічах Басі Цыпінай жылося вельмі цяжка: бясконцыя праверкі то з раённага аддзела адукацыі, то з райкама партыі, то з КДБ. Але яна не здавалася, пісала ва ўсе інстанцыі з просьбаю, каб адбыўся над мужам паўторны суд. І ў 1940 годзе па хадайніцтве ўсё той жа Басі Цыпінай Пятра Шырокава і яго сяброў прывозяць у Мінск для «перагляду справы». З Мінска адпраўляюць у Чэрвень, дзе і асуджаных застае вайна.

Нямецкія самалёты ўжо бамбілі горад, таму савецкай уладзе было не да зняволеных. Так Тодар Лебяда са сваімі сябрамі апынуўся на волі. Гэты момант Масей Сяднёў занатаваў у сваёй паэме «Мая вайна»:

---

* Масей Сяднёў. Раман Корзюк. Нью-Ёрк – Мюнхэн. 1985. С. 121.

…Я падаў і плакаў…
— Ты што? —
Пачуўся мне голас ласкавы
І нехта падаў паліто: —
Накрыйся й ляжы!
Апрытомнеў
І вочы падняў я — на крок
У ранішніх сонца промнях
Стаяў ад мяне Пятрок.
Той самы Пятрок, зь якім мы
Вучыліся тры гады.
А потым экзамен ў Нарыме
Трымалі за курс бяды.
Прасоўваліся па балотах
Армейцы ваўчынай гайнёй.
І лёталі самалёты
Чужыя над нашай зямлёй.
Быў горад далёка за намі,
Ад сажы і дыму густы.
Ішлі з Петраком мы жытамі,
Ня ведаючы куды.
І ўспомнілі мы, што болей
Канвою над намі няма,
Што сапраўды на волю
Нас выпусьціла турма.
І хоць мы турму гнаілі,
Ды посьля пяцёх гадоў
Здавалася нам, наіўным, —
Мы сталі студэнтамі зноў.
Шумлівыя, сьветлыя залі,
Прыемны студэнтак напеў.
Мы лепш, чым другія, пазналі
«Кароткі курс ВКП».
Прайшлі мы із словам «нацдэмы»
Па мёрзлай зямлі і вадзе.

Ня ведалі нашыя, дзе мы
І думалі: можа, нідзе.
Ісьці не маглі мы болей,
Супольна — рука ў руку:
Мяне у вадным чакалі,
яго — у другім баку.
Заплакалі мы на ростань,
Змораныя ад хады,
І разьвіталіся проста,
Як нашы калісьці дзяды.
У памяці дзень той выцьвіў,
На музыку просіцца слоў…
Мой сябра пайшоў на Віцебск,
А я — на Магілёў…*

Пятро Шырокаў дабраўся да Віцебска, дзе жыла яго маці. Тут ён ізноў узяўся за пяро — пісаў вершы, апавяданні і драматычныя творы. Адначасова рэдагаваў газету «Беларускае слова», што выходзіла тры разы на месяц. У Віцебску была закончана і п’еса «Загубленае жыццё», якая ўпершыню была пастаўлена на сцэне Віцебскага драмтэатра. Дарэчы, у 1943 годзе беларускі рэжысёр Вячаслаў Селях-Качанскі ажыццявіў пастаноўку гэтай п’есы і на сцэне Мінскага гарадскога тэатра. Пазней, на эміграцыі ў Германіі, разам з кампазітарам Міколам Равенскім ён арганізуе эстрадную групу «Жыве Беларусь» і зноў ажыццявіць пастаноўку «Загубленага жыцця». Вяртаўся да яе В. Селях-Качанскі і жывучы ў г. Элізабет (ЗША). У 1952 годзе ў Канадзе п’еса «Загубленае жыццё» выходзіць з друку асобным выданнем. І толькі ў 1995 годзе яна была апублікавана на радзіме ў часопісе «Тэатральная Беларусь». Гэтая драма — першая

*Патушаныя зоры. Нью-Ёрк – Мюнхен. 1975.С. 203–205.



64

антыбальшавіцкая п’еса ў беларускай літаратуры, якая праўдзіва паказвае гады калектывізацыі і сталінскіх рэпрэсій на Беларусі.

У акупаваным немцамі Віцебску Пятро Шырокаў рэгіструе шлюб з артысткаю Верай Жгут. Ён падтрымлівае цесныя сувязі з беларускімі акцёрамі і пісьменнікамі, часта наведвае Мінск. А ў 1944 годзе з друку выходзіць першы паэтычны зборнік Тодара Лебяды «Песьні выгнаньня». Ва ўступе да яго напісана: «Беларускі народ многа перацярпеў гора і зьдзеку. Найбольш, аднак, прыйшлося цярпець за часоў бальшавіцкага панаваньня. Бальшавікі, накідаючы сваю волю беларускаму народу, жорстка перасьледавалі ўсіх тых беларусаў — сялян, работнікаў, інтылігентаў, — якія хацелі наладжваць жыцьцё ў Беларусі так, як хацеў беларускі народ. Бальшавікі саджалі беларускіх патрыётаў у вастрогі, канцэнтрацыйныя лягеры, высылалі ў далёкія азіяцкія краіны, адкуль бальшыня з іх ніколі ўжо ня вернецца, бо яны не змаглі перажыць бальшавіцкіх зьдзекаў і тых жудасных абставінаў, у якія іх укінулі бальшавікі, і злажылі сваё жыцьцё, як ахвяру, на аўтар Бацькаўшчыны. Ёсьць, аднак, і такія людзі, якім удалося перажыць бальшавіцкія зьдзекі, вырвацца з бальшавіцкіх кіпцюроў і зьявіцца ізноў на беларускую ніву да працы дзеля дабра беларускага народу. Да гэткіх шчасьліўцаў належыць між іншых малады беларускі паэт Тодар Лебяда. Яму ўдалося вырвацца з бальшавіцкіх рук, захаваць жыцьцё, і цяпер ён плённа працуе на беларускай культурнай ніве… Зборнік гэты мае вялікія мастацкія вартасьці і ёсьць дакумэнтам тых усіх жудасьцяў, якія мусілі перажыць беларусы ад бальшавікоў і да паўтарэньня якіх беларускі народ ніколі ня можа дапусьціцца»*.

---

* Тодар Лебяда. Песьні выгнаньня. Мінск, 1944. С. 3.



65

Пад вакном за выцвілай за брамай
Расцвітаў ізноў прыгожы май.
Трэці год, як сына ўжо забралі,
Трэці год, як роднага няма.
Як забралі — весці не пачула…
І на твары роспач і адчай.
Трэці год, як бедная матуля
Перастала спаці па начах.
Поўнач. Стукнуў хтосьці. Хто там?
Гэта сон… Але ж пасля сама
Выбягае хутка за вароты —
Прыглядаецца… глядзіць вакол… няма.
Той жа ночы дзесьці на чужыне
Родны сын яе навек спачыў.
І дарма матуля варажыла,
Пад акном сядзела уначы.

У 1944 годзе, падчас адступлення немцаў, Тодар Лебяда вырашыў уцячы на Захад. Ён добра ведаў і адчуваў, што яго зноў чакае турма, зноў чакаюць сталінскія рэпрэсіі. Таму спачатку быў Берлін, а пасля Прусія, дзе ён, разам з жонкаю Верай Жгут, уладкоўваецца на працу да аднога баўэра. Як жылося і працавалася ім там, сведчыць адзін ліст Тодара Лебяды да Масея Сяднёва. У свой час гэты ліст Сяднёў прыслаў мне, ён захоўваецца ў маім хатнім архіве:

«Здароў, Масей! Сёньня атрымалі ад цябе першы ліст і былі бясконца рады. Малайчына, што не застаўся ў Беластоку! Аб нас ты ўжо напэўна тое-сёе чуў. Жывем з Валодзькам (Клішэвічам. — *С. Ч.*) у аднаго баўэра, працуем у яго: косім, чысьцім гной і г. далей, за што маем ад яго кавалак хлеба. Калі казаць аб нашым жыцьці, дык пра ўсё можна выказаць адным словам — сытыя. Больш нічога. Ніякай духоўнай стравы. Рана ўстаем, ідзем на працу, прыходзім з працы — вячэраем


66

і кладземся спаць, каб заўтра ісьці зноў на працу. Гэтаксама жыве і Віцьбіч. Ён толькі за чатыры вярсты ад нас. Пісалі мы некалькі лістоў у Бэрлін, але адказу не атрымалі, што яшчэ раз пацьвярджае думку аб нашых беларусах: калі сам сыты, дык аб галодных не спагадае. Я гэта адчуў яшчэ на Бацькаўшчыне, а цяпер гэта лішні раз толькі пацьвярджаецца. Мы — беларусы такімі адносінамі (панскімі) да людзей дабіліся таго, што нам ужо мала хто й верыць, аб чым бы мы ні казалі.

Вось мы сёньня радуемся з Валодзькам, што ты зараз у Бэрліне. Ты — не такі, як нашыя астатнія беларусы. Будзем спадзявацца, што ты дзе-небудзь, калі-небудзь і закінеш там за нас слова. Галоўнае — каб ты не забываўся пра нас і пісаў нам лісты, дасылаў газэты (як мага акуратней) і па магчымасьці іншую літаратуру, бо мы зараз анічога ня маем. Атрымалі адзін нумар «Раніцы» ад сп. Караленкі, за што вельмі шчыра яму ўдзячны.

Учора я пахаваў сваё дзіця. Пасьля ўсяго вельмі дрэнны настрой. Мы з Валодзькам разабралі наш ложак і зрабілі майму сыну маленькую дамавіну. Цьвікоў нацягалі са сьцен і з старых дошак.

Яшчэ раз просім цябе — пішы нам. Мы будзем пісаць, як найчасьцей. Бывай здароў! Твае Пятрок і Валодзя Клішэвіч.

Калі ты ўведаеш аб нашых паэтах Л. Случаніну, Золаку, Алесю Салаўю, або ўведаеш, дзе зараз П. Манькоў, не забывай паведаміць. Устрой, Масей, для мяне, калі ласка, у «Раніцу» аб'яву: шукаю дачку Аляксандру Шырокаву — 8 год, і маці Настассю Паедаву, якія апошнія часы знаходзіліся ў мястэчку Лентварова Віленскай акругі. Паведаміць праз газэту «Раніца» — Тодару Лебядзе. Аб'яву гэтую перарабляй, як хочаш. Я падаў толькі сэнс. Тодар Лебяда».

Цяжка сказаць, ці была гэтая аб'яўка ў «Раніцы», а вось невялікая рэцэнзія М. Сяднёва на зборнік «Песьні выгнаньня» была ў свой час надрукавана ў «Новай дарозе» (Беласток).

Пасля Прусіі сляды Пятра Шырокава на пэўны час губляюцца. Хадзілі чуткі, што ён, загітаваны савецкім афіцэрам, вярнуўся да Басі Цыпінай і да сваёй дачкі Алесі. Але гэтае вяртанне шчасця яму не прынесла. У маі 1947 года Ваенным трыбуналам войскаў МУС Мінскай вобласці па арт. 63-1 КК БССР Шырокаў Пётр Фёдаравіч зноў быў асуджаны, на гэты раз на 25 гадоў…

У якіх раёнах Сібіры адбываў свой тэрмін беларускі пісьменнік Тодар Лебяда, пакуль невядома. Вядома толькі, што 30 жніўня 1956 года ён быў вызвалены з-пад варты, але ў Беларусь вяртацца яму не дазволілі, таму прыйшлося ўладкавацца цырульнікам у адным з пасялковых Дамоў афіцэраў, а таксама працаваць на іншых работах. І толькі ў 1960 годзе ён прыязджае ў горад Слонім, уладкоўваецца працаваць рэзчыкам паперы на мясцовую кардонна-папяровую фабрыку «Альбярцін». А ў вольны ад працы час Тодар Лебяда па-ранейшаму піша вершы, апавяданні і п'есы. Сёе-тое друкуе ў слонімскай раённай газеце «Вольная праца». Але пра свой псеўданім Пятро Шырокаў нікому нічога не казаў, як і пра выдадзеную ім у 1944 годзе кнігу вершаў. Быў заўсёды маўклівы і даволі просты. Вельмі хацеў стварыць на фабрыцы драматычны гурток, каб ставіць свае п'есы. Дарэчы, у Альбярціне ён напісаў п'есу ў трох актах «У нас, на Гродзеншчыне», прысвечаную вясковаму жыццю моладзі. У гэты час было напісана і некалькі аднаактовых п'есак. Адна з іх — «Людзі ва Хрысце» — была надрукавана ў «Вольнай працы».



68

Тодар Лебяда быў добры і апавядальнік. Асабліва яму ўдаваліся гумарыстычныя апавяданні і абразкі на маральна-этычныя тэмы.

Жывучы ў Альбярціне, Пятрок Шырокаў пачынае шукаць і сваіх сяброў, найперш Уладзіміра Клішэвіча. Былы рэдактар беластоцкага беларускага тыднёвіка «Ніва» Георгій Валкавыцкі захаваў і перадаў мне пісьмо Пятра Шырокава ў «Ніву», дзе ён, у прыватнасці, пісаў: «Паважаная рэдакцыя! Праглядаючы архівы Вашай газеты за мінулыя гады, я знайшоў у ёй надрукаваныя вершы майго блізкага сябра па інстытуце Уладзіміра Клішэвіча, якога я лічыў загінуўшым у часы Другой Сусветнай вайны. Быў бы Вам вельмі ўдзячны, калі б Вы паведамілі мне аб яго цяперашнім месцажыхарстве, альбо даслалі яму мой хатні адрас: БССР, Гродзенская вобласць, г. Слонім, пас. Альбярцін, вул. 17 верасня, д. 3. З нецярпеннем чакаю Вашага адказу. З пашанай — Шырокаў Пётр Фёдаравіч. 2.V.61 г.»

Просьба яго была рэдакцыяй выканана. Уладзімір Клішэвіч і Тодар Лебяда знайшлі адзін аднаго. Яны перапісваліся, бо ў адным з пісьмаў да Клішэвіча Пятро нават хваліўся перад ім, што стаў ужо дзедам…

1 студзеня 1962 года Пятро Шырокаў звольніўся з работы і назаўсёды пакінуў Альбярцін. Ён прыехаў у горад Чэрвень Мінскай вобласці і ўладкаваўся на працу сакратаром-машыністкай у рэдакцыю раённай газеты «Уперад». Піша вершы, фельетоны, гумарэскі. Друкуецца не толькі ў сваёй газеце, але дасылае творы і ў рэспубліканскія выданні. Праўда, падпісваецца ўжо іншым псеўданімам — Клім Каліна.

У канцы 1962 года Тодар Лебяда пакідае Беларусь і ад’язджае на Разаншчыну ў Расію да знаёмай жанчыны. З ёю наш зямляк пражыў сем гадоў. Там ён пабудаваў дом, пасадзіў сад. Але гады сталінскіх рэпрэсій далі аб

сабе знаць. Тодар Лебяда перанёс два інфаркты і напачатку 1970 года памёр. Яго пахавалі ў пасёлку Воршава Пуцяцінскага раёна Разанскай вобласці.

## ШЛЯХІ-ДАРОГІ ПРАЗ АЛЬБЯРЦІН

Калі на Слонімшчыну прыязджаюць экскурсіі, а іх бывае штогод вельмі многа, турысты найперш спяшаюцца ў Альбярцін. Спяшаюцца не толькі паглядзець на палац Пуслоўскіх, але і прайсціся па слядах вядомых людзей, якія там пэўны час жылі.

У 1865 годзе Альбярцін наведаў вялікі беларускі мастак Напалеон Орда. Ён быў шчырым госцем у палацы Пуслоўскіх. А нам у спадчыну пакінуў дзве карціны — сядзібы і фабрыкі сукна Пуслоўскіх. Фотарэпрадукцыі гэтых карцін публікуюцца ў кнізе.

У першыя пасляваенныя гады Другой сусветнай вайны, перад службай на Далёкім Усходзе, служыў у Слоніме народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. А жыў ён у Альбярціне. Давайце разгорнем ягоную кнігу ўспамінаў «Доўгая дарога дадому», дзе Васіль Уладзіміравіч пра гэта прыгадвае сам: «На гэты раз паехаў далей — у Слонім. У свеце пачыналася шырокамаштабная халодная вайна з перспектывай перарасці ў гарачую, спатрэбілася болей войска. Слонімская брыгада разгортвалася ў дывізію, без артылерыста лейтэнанта Быкава абысціся было немагчыма. Армію знайшоў амаль той самай, якою пакінуў два гады таму. Усё тое ж бязладдзе, нагнятанне небяспекі з Захаду, нястача ўсяго матэрыяльнага — ад транспарту да шынялёў. Да паловы зімы хадзіў у ватоўцы з прышытымі афіцэрскімі пагонамі на плячах. І незвычайны нават у гады вайны рэжым сакрэтнасці. Усе статуты, інструкцыі, загады



70

былі засакрэчаныя. Калі для заняткаў патрэбна было якое настаўленне, а яно патрэбна было кожны дзень, трэба было ўранку атрымаць яго пад распіску ў сакрэтнай часці, а ўвечары здаць. Узнікала шмат блытаніны, і некалькі афіцэраў пагарэлі на тым. Адзін наш камбат, каб кожны раз не бегаць у штаб па статут, штосьці выпісаў з яго ў свой блакноцік, які затым згубіў на занятках у полі. Праўда, блакноцік не быў зарэгістраваны, і камбат асабліва не турбаваўся. Але ж трэба так здарыцца, што яго знайшоў на ўзлеску калгаснік і зрабіў, як ён думаў, добрую справу — у кірмашовы дзень адвёз блакноцік у Слонім. Там вельмі хутка вызначылі, каму ён належыць, і праз месяц з камбата знялі пагоны. Зіму я прабыў у Слонімскай дывізіі, жыў зноў у бабкі ў Альбярціне. Кожны дзень — палявыя заняткі, у мароз, дождж і сцюжу, зіма выдалася сцюдзёная. Нарэшце — чаканая вясна, прыгрэла сонца, і Быкаў атрымлівае новы загад: адправіцца на Далёкі Усход»*.

Летам 2010 года Альбярцін наведаў вядомы расійскі фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жорэс Алфёраў. Прыезд у Альбярцін расійскага вучонага быў невыпадковым. Пра гэта ён сам расказаў слонімскім журналістам. Аказалася, што першы раз Алфёраў наведаў Альбярцін ажно ў 1945 годзе. А апошні раз у Альбярціне фізік быў у 1966 годзе. Рэч у тым, што бацька Жорэса Алфёрава Іван Алфёраў пасля Другой сусветнай вайны быў начальнікам арганізацыі Саюзбумтрэст. Гэта быў трэст папяровай прамысловасці, куды ўваходзіла і кардоннапапяровая фабрыка «Альбярцін». Таму Іван Алфёраў вельмі часта прыязджаў у Альбярцін. А летам сям’я Алфёравых любіла ў пасёлку адпачываць.

---

* Быкаў Васіль. Доўгая дарога дадому. Мінск, 2002. С. 162–164.



71

Падчас наведвання Альбярціна Жорэс Алфёраў прыгадаў 1965 і 1966 гады, калі ён з сябрамі адпачываў у Беларусі. У Альбярціне яны купілі дзве рыбацкія лодкі, злучылі іх разам і паплылі па Ісе і Шчары ў Літву. А ў 1949 годзе Жорэс Алфёраў гуляў у футбол, ён стаяў на варотах за каманду «Альбярцін», якая тады перамагла футбольную каманду танкавай дывізіі з лікам 2:1. А гэтая каманда лічылася самай лепшай у Слоніме ў пасляваенны час.

У Альбярціне 1 студзеня 1959 года нарадзілася беларускі археолаг, культуролаг, педагог і гісторык Ніна Здановіч. Скончыла Белдзяржуніверсітэт. Жыве ў Мінску. Сфера яе навуковых інтарэсаў — матэрыяльная і сацыяльная культура Беларусі XVI–XVIII стагоддзяў.

напісала і выдала Ніна Здановіч шэраг цікавых кніг. У 2005 годзе з друку выйшла яе манаграфія «Кафлярства ў Беларусі», дзе аўтарка грунтоўна даследавала кафлю, яе форму, тэхналогію, аздобу, гісторыю. Найперш гаршковую, каробкавую кафлю Полацка XIV–XVII стагоддзяў, а таксама іншую кафлю. Наогул, Ніна Здановіч у Беларусі добры спецыяліст па даследаванню керамічнай вытворчасці Беларусі. У складзе археалагічных экспедыцый яна даследавала замкі ў Лідзе, Міры, Гродне, гарады Мазыр, Мсціслаў, Магілёў, Віцебск, Полацк, Чачэрск, Мінск, Слонім і іншыя. Альбярцінская даследчыца з’яўляецца сааўтарам даследаванняў «Стары замак у Гродне XI–XIII стст.», «Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка», «Асновы культуралогіі» і г. д.

У Альбярціне шмат гадоў жыла заслужаная настаўніца Беларусі паэтка Алена Руцкая. Цяпер яна жыве і працуе ў Гродне. Алена Руцкая выдала некалькі зборнікаў паэзіі і шэраг кніг для настаўнікаў па пазакласнай працы па беларускай літаратуры.



72

На пэўны час абраў Альбярцін сваім месцам жыхарства беларускі пісьменнік Уладзімір Бутрамееў. Ён жыў у Альбярціне, нават пабудаваў там сабе дом. Цяпер Уладзімір жыве ў Мінску. Кнігі яго выходзяць з друку не толькі ў Беларусі, але і ў Маскве.

Альбярцін ніколі не заставаўся без творчых людзей. Сёння там жывуць беларуская паэтка Ірына Войтка, керамістка Надзея Салейка, мастакі Яўген і Алег Івановы, а таксама іншыя творчыя людзі Слонімшчыны.

## ПОМНІКІ АЛЬБЯРЦІНА

З прыгожага жывапіснага берага Альбярцінскага возера здалёк відаць самы высокі у Еўропе тэлерэтранслятар, пабудаваны ў 1965 годзе. А калі з напрамку Мінска заязджаеш у Альбярцін на вуліцу Войкава, то на схіле пакатага ўзгорка сярод малапавярховай сядзібнай забудовы дамінуе касцёл гатычнай архітэктуры. Адсутнасць шэрагу характэрных для готыкі кананічных асаблівасцей дазваляе аднесці яго да псеўдагатычнага напрамку XIX – пачатку XX стагоддзя.

Касцёл узведзены з цэглы. Ён просты па аб’ёмнапрасторавай кампазіцыі, хаця сам будынак набыў манументальны выгляд дзякуючы свайму эфектнаму размяшчэнню.

Недалёка ад касцёла ў 1996 годзе беларускімі грэка-католікамі быў пастаўлены мемарыяльны крыж з шыльдай. На шыльдзе напісаны словы: «Памяці айцоў-езуітаў усходняга грэка-каталіцкага абраду, якія жылі і працавалі тут у 1923–1942 гг. 400-я ўгодкі Берасцейскай вуніі. 1996».

Побач з касцёлам бачны праваслаўны храм прападобнага Афанасія Брэсцкага, які займае частку будынка былога каменнага манастыра езуітаў, пабудаванага ў 1924 годзе.

На альбярцінскіх могілках на месцы брацкай магілы савецкіх воінаў, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны, у 1956 годзе быў устаноўлены помнік — скульптурная кампазіцыя ў выглядзе журботнай жанчыны і сувораўца. А ў 1965 годзе каля альбярцінскіх могілак быў узведзены і пірамідальны абеліск у гонар усіх ахвяраў Другой сусветнай вайны. Мемарыяльная шыльда савецкім воінам у 1969 годзе была адкрыта і на будынку кардонна-папяровага завода «Альбярцін». Яна прысвечана 13 чырвонаармейцам, якіх 26 чэрвеня 1941 года расстралялі гітлераўцы. На ўшанаванне памяці работнікаў завода – ахвяр вайны перад будынкам прадпрыемства ў 1969 годзе была ўстаноўлена і стэла з памятным надпісам.

Але гісторыя і памяць Альбярціна прадстаўлена не толькі помнікамі Другой сусветнай вайной, але і помнікамі XIX стагоддзя, найперш архітэктурнымі. Альбярцін сёння найперш ведаюць як помнік сядзібнапаркавай архітэктуры позняга класіцызму. У комплекс уваходзяць сядзібны дом з флігелем, службовыя пабудовы, гаспадарчыя будынкі (захавалася стайня) і сама фабрыка.

Цэнтральны палац Пуслоўскіх у вайну гарэў, яго хацелі спаліць партызаны, але не ўдалося. Пазней палац адбудавалі і размясцілі ў ім гарадскі Дом культуры і бібліятэку, якія знаходзяцца там і цяпер. Сёння палац Пуслоўскіх з шыкоўнымі мармуровымі львамі на ўваходзе прыцягвае ўвагу турыстаў.

Галоўны корпус, праектаваны як цэнтральны, на плане прамавугольны, на восі быў упрыгожаны



74

порцікам, які падтрымліваецца чатырма тасканскімі калонамі, звенчанымі ступенчатым франтонам, падзеленым філёнкамі. У месцы, дзе звычайна знаходзіўся гербавы картуш, у франтоне было трохкутнае акенца. Верхні паверх пакрытай пілястрамі порцікавай часткі змяшчаў тры вокны тыпу porte-fenktre (ад падлогі да столі) з прыгожа каванымі чыгуннымі балконамі. Калоны стваралі адну лінію з карацейшым бокам крыла. Пад порцік на цэлай яго шырыні вялі каменныя сходы, акружаныя скульптурамі львоў, выкананымі ў белым мармуры паводле Антоніа Кановы. Бакавыя часткі пярэдняга фасада на абодвух паверхах мелі толькі па адным, падвойнай шырыні, акне. Увесь першы паверх і навугольнікі былі пакрыты рустоўкай. Правы фасад карацейшы, як на першым, так і на другім паверсе меў адно акно і адны зашклёныя дзверы. Ніжнія дзверы выходзілі на вялікую тэрасу, верхнія — на доўгі балкон. Ля ўваходу на тэрасу стаялі два чарговыя львы, венецыянскія XV стагоддзя. Тэрасу акружала альтанка з павойнымі раслінамі. Цэнтральны корпус накрыты быў таксама гладкім чатырохскатным дахам.

У парадным крыле знаходзіліся пяць фешэнебельных прасторных пакояў з паркетнымі падлогамі, выкананымі з розных гатункаў драўніны ва ўзоры цераспалосіцы, авалаў і квадратаў. На сценах красаваліся ўзорыстыя шпалеры (тканыя і папяровыя) або шалёўка. На гладкіх столях былі толькі разеты, з якіх звісалі жырандолі.

З нерухомага абсталявання інтэр’ераў асаблівай увагі заслугоўвалі чатыры стыльныя французскія каміны і дзве латарынскія печкі ў стылі ампір. Плоскасць над камінам у кабінеце ўладальніка дома ўпрыгожвала фрэска аўтарства Францішка Жмуркі,



75

якая прадстаўляла Музу з рознымі атрыбутамі. Дзверы ў парадных пакоях пакрытыя былі палітурай колеру натуральнай драўніны, у іншых — белым лакам.

На працягу некалькіх пакаленняў кіравання Альбярцінам Пуслоўскія здолелі абсталяваць палац стыльнай мэбляй — айчыннай і замежнай. Некалькі салонаў займелі назвы ад відаў мэблі, напрыклад, «чачоткавы» салон з камплектам мэблі (канапа, чатыры мяккія крэслы, восем крэслаў і шэсць фатэлікаў з паўкруглымі спінкамі) з карэльскай бярозы, выкананай айчыннымі майстрамі. «Гданьскі» салон з раялем для музыцыравання меў разныя, у чорным дубе, мяккія і абабітыя шкурай крэслы з высокімі спінкамі і ў такім жа стылі сталы і столікі. Салон «Буль» (Буль Андрэ Шарль (Boulle Andre-Charles, 1642–1732) — французскі майстар мэблевага мастацтва. — *С. Ч.*) апрача арыгінальнай мэблі з гэтай майстэрні меў таксама такія ж упрыгожванні камінаў у выглядзе бронзавага гадзінніка і кандэлябраў. Апрача таго былі яшчэ салоны ў стылі ампір і Луі-Філіпа, а таксама кабінеты: адзін у стылі Луі XVI, другі — кітайскі.

Сталовая памерам 7×11 метраў, з мэбляй, выразанай у чорным дубе, як і адзін з салонаў, вытрымана была ў «гданьскім» стылі. Яе сцены па-над шалёўкай амаль поўнасцю завешаны былі дэкаратыўным посудам з амаль усіх еўрапейскіх мануфактур: польскіх — з Бельведэра, Корца, Баранаўкі і Небарова — і замежных — з Ліможа, Пецярбурга, Майсена, Берліна і Вены. Гэты пакой упрыгожвала таксама кітайская клетка шырынёй каля 1 метра і вышынёй на 2,5 метра, выкананая з бронзы, з характэрным шматпавярховым дахам, абвешаная сярэбранымі званочкамі. Асобную калекцыю, мабыць, унікальную, складаў вялікі збор целеханскага фаянсу ў



76

выглядзе вазонаў, дэкаратыўных вазонкаў, ліхтарыкаў, бутэлек, сальніц і г. д.*

Адразу за палацам у добрым стане сёння захаваны і колішні жылы флігель Пуслоўскіх, дзе ў савецкі час знаходзіўся Палац спорту. Як сляды нядаўна мінулай эпохі са сцен гэтага будынка і сёння пазіраюць барэльефы савецкіх лёгкаатлетаў. А скульптура самага галоўнага з іх, у зялёных шортах і сіняй майцы, усталявана проста перад флігелем. Побач з абодвума палацамі захаваліся рэшткі былой аранжарэі, дзе Пуслоўскія вырошчвалі самыя розныя кветкі.

Палац стаіць і сёння сярод ландшафтнага парку плошчай у 20 гектараў. Некаторыя старыя дрэвы тагачаснага парку, у тым ліку стройныя лістоўніцы, раслі блізка каля палаца, побач яго левага крыла. На газоне перад порцікам, які лагодным схілам сыходзіў да возера плошчай каля 60 гектараў, на пастаментах стаялі дзве мармуровыя статуі Цэрэры і Памоны аўтарства італьянскага скульптара. З вокнаў палаца праз возера відаць было супрацьлеглы бераг і раскінутую на тым боку вёску. З левага боку ў возера ўрэзвалася даліна паміж пагоркамі, пакрытымі высокім борам. Зусім побач з палацам стаяла вялікая і высокая аранжарэя з поўнасцю зашклёнай паўднёвай сцяной. Вырошчвалі ў ёй між іншым экзатычныя расліны, якія летам выстаўлялі на двор у спецыяльных вазонах. Ззаду змяшчалася прыбудова, узведзеная ў тырольскім стылі; другая, на манер польскіх дворыкаў, стаяла ля ўязной брамы. Там таксама знаходзілася стайня, якая на замову ўладальнікаў Альбярціна была ўзведзена ў форме падковы кракаўскім архітэктарам Тадэвушам Стрыенскім.

---

* Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wroclaw, 1992. T. 2. S. 183–188.

Ужо па-за паркам, над ручаём, стаяла мураваная водная паперня, накрытая двайным ламаным польскім дахам, выгляд якой не мяняўся з XVII стагоддзя. Толькі колішняя галандская чарапіца, абстраляная ў гады Першай сусветнай вайны, у міжваенны перыяд была заменена гонтай. З XIX стагоддзя ў гэтым будынку знаходзіўся млын.

Стайня захавалася, як і сам палац, да сённяшніх дзён. Цяпер там знаходзіцца кафэ, наконт якога мясцовыя жыхары нярэдка жартуюць: маўляў, за панамі тут елі коні, а цяпер — кормяць людзей.

Да нашых дзён у Альбярціне захаваўся велічны двухсотгадовы парк, пасаджаны Пуслоўскімі ўздоўж берагоў ракі Ісы. Да жніўня 2009 года ў Альбярцінскім парку знаходзіўся помнік прыроды — ліпа каралінская. На жаль, падчас моцнага ветру дрэва не вытрымала і напалову зламалася. Яго нядаўна спілавалі і вывезлі.

Уздоўж Альбярцінскага вадасховішча захаваліся і забрукаваныя ліпавыя алеі, каля берагоў якіх прывязаны дзясяткі драўляных чаўноў. Побач, каля двух шырокіх вадаспадаў, у перабудаваным выглядзе знаходзіцца і колішні фальваркавы млын…

Калі спыняешся ў Альбярціне і заходзіш праз старую мураваную браму на сядзібу Пуслоўскіх, нібы трапляеш у чароўны свет XIX – пачатку XX стагоддзя, сёння такога далёкага ад нас і… такога блізкага.

Гісторыя Альбярціна працягваецца. І вельмі многае мы можам стварыць для яго будучыні толькі тады, калі захаваем хаця мінулае, тое прыгожае, што зроблена было да нас.



78

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

АЛЬБЯРЦІН

*Гісторыка-краязнаўчы нарыс*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *В. Андрэева*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Андрэева*

Падпісана да друку 10.11.2011. Фармат 84×100 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 3,89.
Ул.-выд. арк. 2,95.
Наклад 150 ас. Зак. 789.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.